# ШЛЯХІ калектывізацыі

20-21





1932

**У дзень 15-й гадавіны Кастрычніка — наша баявое прывітаньне пралетарам, прыгнечаных польскім фашызмам**

# Там, дзе пануе капітал

## Жудасныя малюнкі

Нястача, галеча і голад трымаюць у сваіх цэпкіх лапах вялізарныя масы працоўных капіталістычных краін. Прайшоўшы на асабістым горкім вопыце „школу“ капіталізму, значная частка рабочых пераходзіць у лягер пралетарыяту, які змагаецца пад сьцягам кампартыі. Але частка беспрацоўных, ня вытрымаўшы цяжару нястачы і мучэньняў голаду, не атрымліваючы дапамогі па беспрацоўі ці атрымліваючы такую суму, якая не дае магчымасьці нават жыць галадуючы, канчае самагубствам.

Хроніка газэт усіх буржуазных краін поўна жудасных апавяданьняў аб пакутах і самагубствах беспрацоўных. Нядаўна ў Амэрыцы быў зроблен падлік, які паказаў, што на аснове крызысу ў 1931 г. пакончыла самагубствам 20.000 чалавек.

7 ліпеня ТАСС перадаў з Варшавы:

„Пад загалоўкам „Дзень самагубстваў у Лодзі“ „Экспрэс Поранны“ паведамляе аб 8 выпадках за 30 чэрвеня самагубства пралетараў.

„22-гадовая Зофія Карасінская зволена са службы, памерла прыняўшы атруту.

Мар'яна Вапенская, прыслуга, выкінулася з акна з чацьвертага паверху.

На шасэ каля гораду Згержа кінуўся пад аўтамабіль беспрацоўны 44 гадоў Ян Калбасінскі.

Ірэна Дзітрых, карыстаючыся тым, што ня было гаспадароў, у якіх яна жыла, перарэзала сабе вены галяком.

Пасажыры, якія чакалі цягніка на вокзале Лодзь-фабрычная, былі сьведкамі ўзрушаючай карціны: нейкі хлопчык на вачох мясцовай паліцыі, выхапіўшы рэвальвэр, стрэлам у лоб разьбіў сабе галаву. Самагубца — 14-гадовы Станіслаў Вальчак з рабочага прадмесьця Груец“...

Такіх кароткіх заметак дзесяткі і сотні ва ўсіх сталічных і правінцыяльных газэтах.

Аб трагічнай пагібелі сям'і беспрацоўнага тэкстыльшчыка Ласецкага друк паведаміў наступнае: „25-гадовы рабочы Ласецкі ўтрымліваў на свой нязначны заработак жонку, дзяцей і матку. Калі Ласецкага звольнілі з работы, пасьля доўгага бескарыснага шуканьня работы, пасьля цяжкіх дзён пакутваньня ад голаду Ласецкі надумаўся пакончыць з сабой. У прысутнасьці жонкі і маткі ён пачаў піць атруту. Матка пасьпела выхапіць бутэлечку з рук сына і перадала яе нявестцы, каб тая выкінула яе на вуліцу. Але жанчына доўга ня прыходзіла назад. Калі старая і сын выбеглі на вуліцу, было ўжо позна — жонка Ласецкага выпіла атруту. Страціўшы розум, Ласецкі вырваў бутэлечку в рук жонкі і дапіў рэшту. Ласецкі зваліўся мёртвым першы, а жонка, выбегшы на вуліцу, пачала шалёны танец, пакуль ня ўпала мёртваю на панэль...

Газэты час-ад-часу паведамляюць аб гандлі людзьмі, аб уваскрошаньні звычаяў сваясаблівага продажу ў рабства. У Польшчы аднойчы зьявілася такая вестка: „За 5000 злотых (прыблізна 1 тыс. р.) прадам сваю працу на ўсё жыцьцё прыватнай асобе ці прадпрыемству, якое ў дзень кантракту выплаціць мне грошы. Магу жаніцца на пакалечанай, старой, пачвары, магу таксама афяраваць сабою для мэдыцынскіх дасьледваньняў, нават самых небясьпечных. Адказ у газэту для самагубцы“.

У Польшчы таксама ў Здунскай Волі селянін Петрыкаўскі прывёў на кірмаш для продажу свайго 18-гадовага сына. Пакупнік прапанаваў 50 злотых, г. зн. каля 11 руб. гатоўкаю і 20 цнт жыта праз два гады, калі сын пакажа сябе за гэты час добрым работнікам. У прыёмах сярэдняявякоўя з эканамічна адсталай Польшчай спаборнічае „цывілізаваная“, нядаўна „працьвітаўшая“ Амэрыка. У Лос-Анжэлосе нядаўна быў арганізаваны „добрачынны“ аукцыён, дзе беспрацоўныя сабе прадавалі. На гэтым аукцыёне беспрацоўных ставяць на высокае месца, а прадавец выхваляе якасьці рабочых, пакупнік мацае цяглíцы, аглядае беспрацоўнага з усіх бакоў. Хто больш прапануе платы, той уводзіць купленага рабочага. Цэны на гэтым аукцыёне — ад 35—50 цэнтаў за гадзіну работы.

---

**Зьмест нумару:**

XVIII

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

20—21
1932

КАСТРЫЧНІК
ЛІСТАПАД

# АДЗНАЧЫМ 15 ГАДАВІНУ КАСТРЫЧНІКА НОВЫМІ КАЛЁНАМІ ЎДАРНІКАЎ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ БУДОЎЛІ

## НАПЕРАД ДА ПАБУДОВЫ БЯСКЛЯСАВАГА САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДЗТВА!

Роўна пятнаццаць год таму назад гераічнай барацьбой камуністычнай партыі на чале свайго правадыра Леніна, ва ўзброеным паўстаньні рабочых і салдат, у грымотах залпаў гармат крэйсэра „Авроры“,—перамагла сацыялістычная рэвалюцыя на берагох Нявы ў горадзе Леніна. Роўна пятнаццаць год таму назад пралетарыят нашай краіны, апіраючыся на бядбейшае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў узяў уладу ў свае рукі і адкрыў новую эпоху ў гісторыі чалавецтва.

Усяго пятнаццаць год толькі аддзяляюць нас ад таго вялікага гістарычнага дня—25 кастрычніка 1917 году. А колькі мы прайшлі па шляху да пабудовы сацыялізму!

Апіраючыся на беднату, пралетарыят узяў уладу ў кастрычніку; моцна апіраючыся на беднату, у цесным саюзе з серадняком, у барацьбе з кулаком мы аднавілі прамысловасьць, прыступілі да яе рэканструкцыі. Моцна апіраючыся на калгасьніка, ажыцьцяўляючы ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, мы ўступаем у новы этап пралетарскай рэвалюцыі, у другую пяцігодку—пяцігодку ліквідацыі клясаў наогул і пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва ў нашай краіне.

Пятнаццатую гадавіну Кастрычніка пралетарыят, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР сустрэлі новымі гістарычнымі перамогамі на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. Мы пабудавалі і будуем нябачныя ў сьвеце гіганты.

Магнітагорскі і Кузьнецкі мэталюргічныя заводы, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя гіганты, Днепрабуд, Днепрасталь, Ніжнягародзкі аўтамабільны завод, Саратаўскі завод камбайнаў, Казакстанскі медны камбінат, новы Маскоўскі аўтамабільны завод і рад іншых заводаў, якія пушчаны да пятнаццацігодзьдзя Кастрычніка—зьяўляюцца доказам таго, наколькі мы ўзрасьлі ў галіне сучаснай тэхнікі, лепш за ўсё, характарызуюць маштабы нашага будаўніцтва.

„У суадносінах сіл між сацыялістычным і капіталістычным сьветамі—вялізарнейшы зрух, у першую чаргу дзякуючы росту ўдзельнай вагі **СССР**, ажыцьцяўляючага гіганцкімі тэмпамі сваю вялікую праграму сацыялістычнай індустрыялізацыі, калектывізацыі і культурнай рэвалюцыі, Краіна замацавалася канчаткова на пазыцыях сацыялізму, другая пяцігодка намячае канчатковую ліквідацыю клясаў, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва ўсё больш забясьпечваецца эканамічная самастойнасьць Краіны Саветаў у адносінах да капіталістычнага сьвету, узрасьлі яе міжнародная магутнасьць, рэвалюцыянізуючае ўзьдзеяньне на працоўных і эксплёатуемых усіх краін, яе значэньне як базы сусьветнай сацыялістычнай рэвалюцыі“ (з тэзісаў XII пленуму ІККІ).

Аграмаднейшы крок наперад зрабіла і наша Савецкая Беларусь як неадлучная частка СССР. Пабудаваны і ўжо дзейнічаюць новыя фабрыкі і заводы першай пяцігодкі: Гомсельмаш, Бабруйскі і Гомельскі лесакамбінаты, запалкавыя фабрыкі „Х Акцябр“ і „Пралетарская перамога“, швэйныя гіганты „Сьцяг індустрыялізацыі“ ў Віцебску, „Акцябр“ у Менску, імя Дзяржынскага ў Бабруйску, імя Валадарскага ў Магілеве, вялікі скураны завод у Магілеве, элеватар і маргарынавы завод у Гомелі, панчошна-трыкатажны камбінат у Віцебску. Асінаўская дзяржаўная электрастанцыя імя Сталіна, фабрыка штучнага шоўку ў Магілеве і рад іншых заводаў і фабрык.

Валавая прадукцыя СССР за пэрыяд часу з 1928 па 1932 год узрасла з 14,7 мільярдаў рублёў да 37 мільярдаў руб., гэта значыць у два з паловай разы. Павялічыліся кадры пралетарыяту краіны толькі за адзін апошні год на 2 мільёны чалавек. Армія рабочых СССР да 15-й гадавіны дасягнула 18 з паловай мільёнаў чалавек.

Савецкі саюз стаў краінай самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце. Нашы саўгасы і калгасы зьяўляюцца асноўнымі вытворцамі зярна і сырцу. Калгасамі ахоплена па СССР 61 проц. сялянскіх гаспадарак. 80—90 проц. зямлі ў асноўных сельскагаспадарчых раёнах знаходзіцца пад саўгасамі і калгасамі. Сельская гаспадарка атрымала па БССР толькі каля 2-х тысяч трактароў. У выніку ўсяго гэтага пасеўная плошча па СССР узрасла, у параўнаньні з даваенным часам, на 30 мільёнаў гэктар. Калгаснае сялянства ператварылася ўжо ў цэнтральную фігуру земляробства. Калгасьнік стаў моцнай апорай партыі і ўлады на вёсцы.

Мы завяршылі ў мінулым годзе пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі ў нашай краіне.

У гэтым годзе мы пасьпяхова заканчваем выкананьне пляну першай пяцігодкі за чатыры гады, а па некаторых галінах сацыялістычнага будаўніцтва пяцігадовы плян выканан за тры—два з палове гады.

Гэтых посьпехаў мы дасягнулі дзякуючы правільнаму кіраўніцтву нашай стальной непахіснай ленінскай партыі і яе ЦК на чале з т. Сталіным; у выніку рашучай барацьбы і наступленьня на капіталістычныя элемэнты, рашучай барацьбы з правымі апартуністамі і „левымі“ загібшчыкамі; у барацьбе з контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам у нас у БССР, вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і шавінізмам іншых колераў.

У той час, калі ў нас, у СССР, растучы ўздым сацыялістычнага будаўніцтва, там, за мяжою Савецкага саюзу, у краінах капітала, ідзе няўстанны працэс пашырэньня і абвайстрэньня сусьветнага крызісу. Разбураюцца векавыя ўстоі капіталізму, развальваецца яго фінансавая моц. Буйнейшыя банкі церпяць банкруцтвы і крах.

Эканамічны крызіс прывёў да таго, што высокапрамысловая Германія з краіны, якая выраб ляла сродкі вытворчасьці, ператвараецца зараз у краіну лёгкай індустрыі, у краіну, дзе адносная вага сельскагаспадарчай прадукцыі ўсё больш узрастае.

У выключна цяжкім становішчы знаходзіцца гаспадарка нашай „суседкі“ фашысцкай Польшчы. Прамысловыя раёны краіны ўсё больш заміраюць. Закрыты амаль усе тэкстыльныя фабрыкі Лодзі, Беластоку, Бельску. Доменныя печы загружаны ўсяго на 13 проц. параўнаўча з даваенным часам.

Аграрны крызіс, які зьяўляецца састаўной часткай сусьветнага эканамічнага крызісу, прыводзіць да галечы мільёны працоўных мас вёскі. Пралетарыі гарадоў і фабрычна-заводзкіх цэнтраў, а таксама працоўнае сялянства прызначаны на голад і сьмерць. У той час, калі ў нас, у СССР, поўнасцю ліквідавана беспрацоўе, дык у краінах капітала налічваецца звыш 45 мільёнаў беспрацоўных.

Рабочыя і працоўнае сялянства Зах. Беларусі і Зах. Украіны каленізатарскай палітыкай польскага фашызму даведзены да голаду і жабрацтва. Стогны, енкі і катаваньні палітзьняволеных даносяцца з усіх польскіх турмаў. Звыш дзесяці тысяч лепшых барацьбітоў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне—кінуты ў турмы.

І зусім ня дзіва, што з кожным днём расьце рэвалюцыйная актыўнасьць і клясавая самасьвядомасьць пралетарскіх мас капіталістычных краін. Зрок гэтых прыгнечаных і зьняволеных капіталам мас накіраван на адзіную ў сьвеце краіну, дзе будуецца сацыялізм—на СССР.

Наш рост, нашы дасягненьні на фронце сацыялістычнага будаўніцтва паскараюць набліжэньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, бо мы – ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту, бо СССР—бацькаўшчына сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Таму, рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР павінны з яшчэ большым энтузіязмам змагацца за далейшыя нашы посьпехі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Галоўнейшай, цэнтральнай нашай задачай у галіне сельскай гаспадаркі зьяўляецца арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, павышэньне ўраджайнасьці, разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Ніводная краіна ў сьвеце ня мае такіх шырокіх магчымасьцяй і спрыяючых умоў для павышэньня ўраджайнасьці, як наш Савецкі саюз. Намі вырашана сусьветна-гістарычнай важнасьці задача стварэньня буйных саўгасаў і калгасаў. З кожным годам усё больш павышаецца тэхнічная ўзброенасьць сацыялістычнага земляробства. Аднак, па ўраджайнасьці нашых палёў мы далёка яшчэ адстаем ад перадавых капіталістычных краін. Мы далёка не скарысталі яшчэ ўсіх магчымасьцяй і пераваг буйнага сацыялістычнага земляробства для павышэньня ўраджайнасьці. Таму, трэба **„пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі,— унапрамку павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх без выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант“** (з паст. ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Разам з узмоцненымі нашымі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва, мы павінны заўсёды быць гатовымі выступіць на абарону заваёў Кастрычніка, на абарону СССР, бо небясьпека вайны, як ніколі, паўстала перад намі, бо капіталістычны сьвет шукаючы выхаду з эканамічнага крызісу бачыць гэты „выхад“ толькі ў новай крывавай бойні, у нападзе на СССР.

Уступаючы ў шаснаццаты год пралетарскай рэвалюцыі мы павінны ўзьняць яшчэ больш магутную хвалю працоўнага энтузіязму для пабудовы бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва. Адзначым 15-ю гадавіну Кастрычніка новымі каленамі перадавых ударнікаў сацыялістычнай будоўлі. Шырэй сацспаборніцтва і ўдарніцтва!



Жылы дом калгасьнікаў калгасу „Чырвоны Кастрычнік“ (Вушацкі раён).

Наша краіна абкружана ворагамі. Унутры краіны клясавая барацьба незакончана яшчэ, кулак не дабіт, ён шкодзіць нам на кожным кроку. Таму, зусім зразумела, што ў нас ёсьць яшчэ пакуль што свае цяжкасьці. Але хіба-ж нам ударнай брыгадзе сусьветнага пралетарыяту паддавацца цяжкасьцям? Хіба-ж нам, якія геройчна перамаглі ў грамадзянскай вайне, якія будуюць нябачаныя ў сьвеце гіганты, якія будуюць новы сьвет,—хіба нам апускаць рукі перад цяжкасьцямі. Не, тысячу раз не!

**Шчыльней рады вакол ленінскай бальшавіцкай партыі!**

**Наперад да новых перамог сацыялістычнага будаўніцтва!**

**Калгасьнікі, бедзякі і серадзякі—аднаасобнікі,** усе сілы на барацьбу за высокі ўраджай. За бальшавіцкую падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы першага году другой пяцігодкі. За арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

**Стойка і непахісна на варце сацыялістычнай уласнасьці, за партыю Леніна, за яе Цэнтральны Камітэт на чале з тав. Сталіным!**

**Наперад да пабудовы бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва!**

# МЭХАНІЗАЦЫЯ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ БССР ДА XV ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

Да XV гадавіны Кастрычніка краіна саветаў прышла з аграмаднымі дасягненьнямі. **„Савецкі саюз з краіны дробнае і драбнейшае гаспадаркі ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на падставе калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага ўжываньня машыннае тэхнікі“.** Гэта адбылося выключна дзякуючы правільнай палітыкі камуністычнай партыі—арганізатара і кіраўніка сацыялістычнага будаўніцтва.

Мэханізацыя ўсіх вытворчых працэсаў у сельскай гаспадарцы дае вялізарную эканомію чалавечае працы, падвышае ў шмат разоў яе вытворчасьць. А гэтага рашуча патрабуюць тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, бо мы яшчэ шмат у чым „адсталі ад перадавых краін на 50—100 год. Мы павінны прабегчы гэту адлегласьць за 10 год...“ (Сталін).

Мэханізацыя сельскае гаспадаркі БССР, як і ўсяго СССР павінна была расьці і расла шпаркімі тэмпамі, бо гэтага патрабавала ўся праграма работ па рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі. Каб задаволіць сыравінай нашу прамысловасьць, каб задаволіць узрастаючыя харчовыя і фуражныя патрэбы краіны і забясьпечыць экспарт сельскагаспадарчых прадуктаў, патрэбна ажыцьцяўляць вялізарную вытворчую праграму. Калі, разам з гэтым, пад канец 2-й пяцігодкі мы павінны мець непасрэдна занятага ў сельскай гаспадарцы ня больш за адну трэць насельніцтва краіны, дык стане зусім відавочнай вялізная роля тэхнікі ў сацыялістычнай пераробцы вёскі.

Таму з такой рашучасьцю камуністычнай партыяй і вядзецца зараз тэхнічнае пераўзбройваньне калектывізаванай вёскі.

Да вайны ў 1913 г. на сучаснай тэрыторыі СССР было 826 дробных заводаў, якія выпускалі сельскагаспадарчыя машыны на суму 70 млн. руб. выключна коннае цягі для абслугоўваньня дробных сялянскіх гаспадарак. Зараз мы маем 60 буйных заводаў гігантаў, абсталяваных па апошнім слове тэхнікі, прадукцыя якіх узрасла да сумы больш мільярда рублёў у год. Паасобныя заводы, як напрыклад, Растоўскі, мае аб'ём вытворчасьці—115 млн. руб. у год. Адзін з гэтых гігантаў мы маем у БССР—Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, вытворчая гадавая праграма якога дасягае 15 млн. руб. Разам з гэтым мы маем зрухі ў справе вытворчасьці складаных сельскагаспадарчых машын, мэханічнае цягі. Да 76 проц. прыпадае зараз на складаны сельскагаспадарчы інвэнтар мэханічнае цягі.

Кошт сельскагаспадарчых машын і трактароў у СССР пад канец першае пяцігодкі паводле папярэдніх падлікаў ацэньваецца сумаю да 9 мільярдаў рублёў, або ў 9 разоў больш за кошт усяго сельскагаспадарчага інвэнтара, які быў перад вайной у царскай імпэрыі. Затрата на інвэнтар пад канец пяцігодкі дасягне 45 руб. на гэктар, або параўнаецца з сучаснымі затратамі ў ПАЗШ, пры ўмове непамерна больш рацыянальным яго выкарыстаньні, чым у капіталістычнай Амэрыцы. Гэтыя посьпехі раўназначны тым, якія Нямеччына і Амэрыка мелі за апошнія 20—30 гадоў.

БССР да вайны мела вельмі мала сельскагаспадарчых машын і зусім ня мела трактароў. Пры савецкай уладзе ўнядрэньне сельскагаспадарчых машын і трактароў ішло вельмі шпаркімі тэмпамі. Мы мелі, пачынаючы з 1924—25 г.г. штогодні прырост 120—180 проц., калі ўзяць 1924—25 г.г. за 100 проц. і калі БССР 4—5 гадоў таму назад ня меланіводнага трактара, дык зараз у 1932 годзе на 1-VII мы маем 2750 трактароў, агульнай магутнасьцю 32.600 конскіх сіл.

Яшчэ ў 1929 годзе ў БССР была арганізавана 1 МТС, а зараз мы налічваем ужо ў БССР—57 МТС.

Але яшчэ большыя тэмпы і магчымасьці стаяць перад БССР у галіне тэхнічнага пераўзбройваньня сельскай гаспадаркі ў бліжэйшую будучыню. На другую пяцігодку магутнасьць трактарнага парку БССР дасягне 300 тыс. конскіх сіл і сельская гаспадарка атрымае яшчэ новых сельскагаспадарчых



Ворыва ў саўгасе імя 10-годзьдзя БССР.

машын і абсталяваньня на суму ў 4—5 раз большую ад кошту таго сельгасінвэнтару, які ёсьць зараз.

Надзвычайна вялікі мы маем пераварот, які прынесла нам за мінулыя гады навука ў мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Раней ужываліся толькі прасьцейшыя машыны, якія паўтараліся з году ў год з некаторымі зьменамі. Звычайныя плугі, бароны, касілкі, жняяркі, паўскладаныя малатаркі, усё гэта галоўным чынам па мэханізацыі паляводзтва, вось найбольш распаўсюджаныя машыны. Масавая калектывізацыя сельскай гаспадаркі, будаўніцтва саўгасаў і МТС на новаму паставілі пытаньне аб тэхнічнай базе буйнага сацземляробства. У выніку гэтага мэханізацыя стала прасачвацца ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасьці, якія раней лічыліся нават зусім не паддаючыміся мэханізацыі, як жывёлагадоўля, тэхнічныя культуры, гародніцтва і г. д. Сталі шырока ўжывацца новыя, высокапрадукцыйныя, складаныя машыны.

У галіне мэханізацыі паляводзтва мы маем цэлы рад машын мэханічнае цягі павышаючых прадукцыйнасьць работы, паляпшаючых яе якасьць, зьмяншаючых сабекошт прадукцыі. Магутныя трактарныя плугі, шыроказахватныя сяўнікі і касаркі, трактарныя снопавязалкі, камбайны, ільнацерабілкі, бульбакапалкі, складаныя малатарні, зернаачышчальныя ўстаноўкі; па мэханізацыі жывёлагадоўлі—машыны па падрыхтоўцы кармоў, сіласаўборачныя машыны, мэханізаваны ўнутрыўсадзебны транспарт, падвесныя дарогі на скотных дварох, абсталяваньне для мэханізацыі даеньня, розныя паілкі, кармушкі на сьвінаводных гаспадарках, МТФ і інш. мэханізмы па догляду за жывёлаю і цэлы рад новых машын па мэханізацыі гідратэхнічных і культуртэхнічных работ.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што **„мы ідзем на ўсіх парах па шляху індустрыялізацыі—да сацыялізму, пакідаючы пазаду нашу векавую „расійскую“ адсталасьць. Мы становімся краінай мэталёваю, краінай аўтамабілізацыі, краінаю трактарызацыі“** (*Сталін*).

XV гадавіну Кастрычніцкае рэвалюцыі БССР сустракае напярэдадні 2-й пяцігодкі намячаючай круты ўзрост матар‘яльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас, які павышаецца праз увесь час. Узьнікае новы тып індустрыяльнага земляробства з 100 проц. мэханізацыяй і пасьлядоўным ужываньнем сыстэмы машын ва ўсіх галінах цераз трактарызацыю, аўтамабілізацыю, аўтамашынізацыю, электрыфікацыю вытворчых працэсаў. Да гэтае 100 проц. мэханізацыі сельская гаспадарка прыдзе вядома не адразу, а паступова.



Трактары Старобінскай МТС на ворыве.

Саўгасы, як прадпрыемствы пасьлядоўна-сацыялістычнага тыпу, павінны адыграць вядучую ролю па лініі мэханізацыі ўсіх галін сельскае гаспадаркі.

У МТС, у калгасах будзе рад пераходных этапаў руху да разгорнутае скончанае мэханізацыі. Тут у пэўны пэрыяд часу неабходна забясьпечыць спалучэньне выкарыстаньня мэханізаванага і коннага інвэнтару. **Таму патрэбна весьці неаслабнае змаганьне супроць недаацэнкі каня.** Разам з гэтым будзе паступова падрыхтоўвацца пераход на 100 проц. мэханізацыю ўсіх вытворчых працэсаў збожжавых культур, жывёлагадоўлі, па лініі тэхнічных культур, садоўніцтва і гародніцтва.

Вядучым зьвяном сыстэмы мэханізацыі зьяўляецца яе энэргетычная база. Апрача павялічэньня трактарнага парку, які ўзрасьце ў 10 разоў, уводзіцца ў эксплёатацыю ў сельскай гаспадарцы БССР значная колькасьць электраэнэргіі. Вызначана скарыстаць 80 тыс. клв. устаноўленай магутнасьці па электрыфікацыі працэсаў жывёлагадоўлі і тэхкультур. Для выкарыстаньня энэргіі ветру будуць унядрацца шырока ветрарухавікі.

Па СССР вызначана ўвядзеньне ветрарухавікоў агульнай магутнасьцю да 2,5 конскіх сіл. БССР таксама мае пэўныя магчымасьці ў галіне скарыстаньня энэргіі ветру і задачай 2-й пяцігодкі зьяўляецца тэхнічна асвоіць гэту энэргію.

Павінны быць вырашаны пытаньні мэханізацыі гідра-тэхнічных і культур-тэхнічных работ на балотах, што асабліва важна для БССР, маючай значныя забалочаныя абшары. Гэтыя работы будуць шырока мэханізаваны ў 2-й пяцігодцы пры дапамозе экскаватараў, канавакапацеляў, дрэнажных плугоў, карчавалак і г. д.

Таксама важнай справай зьяўляецца для БССР поўная мэханізацыя культуры лубіну, плошча пасеваў якога будзе пашырана да 200 тыс. га.

Поўная мэханізацыя працэсаў, пасеву, уборкі, транспарту, малацьбы, захаваньня гэтай культуры павінна адыграць вялікую ролю ва ўздыме ўраджайнасьці нашых палёў.

Адзначаючы гэтыя вялізарныя дасягненьні ў галіне мэханізацыі сельскай гаспадаркі БССР, якія мы маем да XV гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і новыя аграмадныя магчымасьці наступаючай 2-й пяцігодкі вялікіх работ, неабходна мабілізаваць працоўныя масы рабочых-вынаходнікаў, ударнікаў сацыялістычных палёў, нашу навукова-дасьледчую думку на далейшую напружаную працу ў гэтым напрамку.

Тады ў барацьбе за генэральную лінію камуністычнай партыі, супроць правага і „левага“ ухілаў,—Савецкая Беларусь здолее хутка і перамажна скончыць сацрэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**С. Іваноўскі.**

# Пятнаццаты

Пруднікаў, Грыневіч

Мы тое ніколі
Нідзе не забудзем
Будуючы нашу—
працоўных айчыну,
Як сьмерць
уздымалася
постаццю куцай
І дзіка гуляла
па нашай краіне.
Як гінулі
ў лапах
імпэрыі царскай
Рабочыя—
Лены,
Масквы,
Петраграду;
І горда трымалі
рукой пралетарскай
Чырвоны
як зарава штандар.
Каб сёньня квітнела
зара па-над краем,
Заводы ўзьняліся
і высьпелі нівы,
Дзе колісь палын красаваў
на папарах,
Асокі шасьцелі
балотнаю цінай.
І вось!
Адшумелі
гады кананад

І мы
пераможцамі
вышлі змагацца
Зьяднанай кагортай
рабочых брыгад
На фронт
бальшавіцкай
ударнае
працы.
На дальніх капальнях
Кузбаскі гарняк
Дрымотныя нетры
кіркою трывожыць...
Змагаецца кожны
калгас
і саўгас
За новыя тысячы
цэнтнераў
збожжа.
Ў паходзе вялікім
ня ведаем стомы
Рэспубліку працы
куем маладую!—
На выцьвілым попеле
сьвету старога
Айчыну працоўных
няспынна
будуем!
Ні сьцюжы,
ні золі,
[illegible] ні ветры ліхія

Запалу бурлівага
ў нас не астудзяць.
Мы—
сілу магутнай
Дняпроўскай стыхіі
Ўключылі сягоньня
ў драты
Днепрабуду.
Мы—
ў слаўным
паходзе
Ня ведаем стомы.
Над ленінскім шляхам
зара пралілася...
Гігантамі тысяч—
заводаў і домнаў
Страчае Кастрычнік пятнаццаты
кляса
Калі-ж—
пасыкнецца
зьбянтэжаны
вораг
Работ
пяцігодніх
падгрызьці аснову,—
Мы заўжды трымаем
вінтоўку
і порах
На пагатове!

Менск, 1932



Уборка сланечніка на сілос у калгасе імя Фалько (Койданаўскі раён).



Падрыхтоўка культыватара перад выхадам на работу (Старобінская МТС).

# „НЯМА БОЛЬШ ЗВАРОТУ ДА СТАРОГА. ЗАСТАУСЯ АДЗІН ШЛЯХ—ШЛЯХ КАЛГАСАЎ“ (СТАЛІН)

## Ленінскім шляхам

*(Клімавіцкі раён)*

Гэта не фантастыка, не бахвальства і ня простая байка. Гэта рачаіснасьць, гэта кавалак падарожжа ў яўрэйскі нацыянальны калгас „Карпачы“, Гусарскага сельсавету, Клімавіцкага раёну.

Калгас „Карпачы“, юнак-піянэр калектывізацыі ў нашым раёне, пачынае штодзенна расьці, дужэць і мацнець. Працоўныя яўрэі заўзята працуюць на зямлі. Аруць, сеюць, убіраюць сваімі ўласнымі сіламі. Гігікалі суседзі карпачоўцаў з вёсак Канахоўка, Тарасавічы, што „нічога ня будзе з вамі. Якія з вас земляробы“. Карпачоўцы на попракі варожым сюсюканьням працавалі без адмаху, з гаспадарчай рухавасьцю, рупна і старанна.

Цяжка было з першых дзён. Яўрэі ня ўсё самі ведалі, сустракаліся з такімі працэсамі ў рабоце, што самі іх не разумелі. Тады прыходзілася зьвяртацца да суседзяй за дапамогай, якія імкнуліся зноў даказаць працоўным яўрэям Карпачоўкі, што „з вашае працы нічога ня будзе. Лепш пакідайце гэтую мужыцкую справу—сельскую гаспадарку“.

Але вышла. І сёньня карпачоўцы чатырнаццаты раз сьвяткуюць сваю перамогу. Яны сталі гаспадарамі зямлі. Яны насуперакі агітацыі кулакоў і падкулачнікаў прымусілі пакарыцца цяжкасьцям. І зямля штогод дае буйны і ўмалотны ўраджай... Зямля штогод пачынае даваць больш ураджаю; яна любіць сваіх працаўнікоў-яўрэяў і за іх рупнасьць на сваіх грудзях вырошчвае каласістае жыта, буйны ячмень, пшаніцу, авёс, грэчку, канюшыну, караньплоды, гарох.



Лепшы ўдарнік-групавод яўрэйскага нацыянальнага калгасу „Соцвег“ т. *Ліфшыц Б.* запісвае выкананую за дзень работу (Парыцкі раён).

— У 1932 годзе—апошнім годзе першай пяцігодкі карпачоўцы маюць права на рапарт 15-му Кастрычніку аб сваіх баявых перамогах.

Калгас „Карпачы“ за пасьпяховае скачэньне веснавой сяўбы з перавыкананьнем пляну Белкалгасцэнтрам прэміяваны. Бальшавіцкая ўборка скончана сваячасова. Уборка закончана без малейшых страт, калгасьнікі ведалі, як дораг кожны колас.



Камсамолка-ўдарніца яўрэйскага нацыянальнага калгасу тав. *Гарохава Сіма* (Парыцкі раён).

У час уборкі была максымальна скарыстана ўся рабочая і цягавая сіла. Шэсьць умоў тав. Сталіна зьявіліся ключамі да перамог калгасьнікаў у іх рабоце. Старшыня калгасу т. Каган і брыгадзір т. Левітан зьяўляюцца перадавымі ўдарнікамі-камандзірамі. Яны разам з дзевятнаццацьцю сем'ямі добра і аддана працуюць штодзенна на палёх па выкананьні пастаўленых перад імі задач.

Добры ў калгасе ўраджай. На аснове прымяненьня агратэхнікі, ужываньня розных мінэральных угнаеньняў, *га* жыта дае больш 120 пудоў, *га* бульбы больш 1600 пудоў і *га* ячменю больш 80 пудоў.

Зараз тыя самыя канахоўцы, якія ня верылі ў перамогу яўрэяў, ім адказваюць: „з вамі ніхто ня справіцца“. Ды і сапраўды з карпачоўцамі цяжка справіцца. Яны і самі растуць і дапамагаюць дзяржаве. Яны пабудавалі жывёлагадоўчы двор, які па падліках каштуе больш 15 тыс. руб., 2 добрых дамы для кватэр калгасьнікаў і лазьню.

У калгасе ёсьць адзін член партыі і 2 камсамольцы. Яны, працуючы ўдарна на палёх, зьяўляюцца лепшымі ўдарнікамі ў разгортваньні культурна-масавай і бытавой работы. Усе апошнія пастановы партыі і ўраду ў калгасе распрацаваны. Калгасьнікі, напрыклад, на апошнюю пастанову аб самаабкладаньні адказалі 100 проц. выкананьнем яе.

Добра працуе насьценгазэта „Калгасьнік“. Насьценгазэта зьмяшчае баявы матар'ял на беларускай і яўрэйскай мовах. Газэта зьяўляецца лепшым дапаможнікам калгасьнікаў у іх рабоце.

Няпісьменных у калгасе няма. Кожны калгасьнік выпісвае газэту „Акцябр“ і „Камуна“, чытае літаратуру, якую бярэ ў сваёй бібліатэцы.

Матар'яльна бытавыя ўмовы калгасьнікаў добрыя. Гэта тлумачыцца толькі аднэй іх гаспадарлівасьцю, клопатам аб кожныы члене калгасу. У калгасе да гэтага часу было мала кватэр. Зараз калгасьнікі пабудавалі новыя сьветлыя кватэры. У бліжэйшым ад Карпачоў Склімінскім сельсавеце ў рабоце калгасаў існуе рад недахопаў. Там некаторыя калгасьнікі, пад уплывам злоснай кулацкай агітацыі пакідалі калгасы. Калгасьнікі калгасу „Карпачы“ ў адказ на варожыя выступленьні адказваюць узмоцненымі тэмпамі работы. Аб іх перамогі разаб'ецца і разьбіваецца ўсякая варожа-кулацкая хлусьня.

Іх перамогі замацаваны, дзякуючы добраму кіраўніцтву партарганізацыі, дзякуючы ўжываньню апошніх навуковых даных аб сельскай гаспадарцы.

Дзякуючы правільнаму ажыцьцяўленьню ленінскай нацыянальнай палітыкі, працоўныя яўрэі выходзяць на шлях разгорнутага сацыялістычнага ўмацаваньня свайго калгасу.

**П. Кавалёў.**



Ударнікі трактарысты т.т. *Вотнікаў* і *Мышко* саўгасу імя 10-годзьдзя БССР.

# Перамогі калгасу „Новы Селянін“

*(Стара-Дарoскі раён)*

У барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае свае ўмацаваньне пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі калгас шмат перанёс цяжкасьцяй за тры гады свайго існаваньня.

Бедната,—актыў калгасьнікаў—пад кіраўніцтвам мясцовай (Дражнянскай) партячэйкі нанесьлі рашучы ўдар па клясаваму ворагу. Вычысьціўшы з калгасу кулакоў, калгасьнікі яшчэ больш актыўна сталі працаваць па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні свайго калгасу.

Веснавая сяўба ў калгасе прайшла ўдарна. У калгасе арганізаваны тры вытворчыя брыгады, якія замацаваны на працягу ўсяго году да пэўнай галіны, вучастку працы. Вытворчыя брыгады ў гэтым годзе ўбралі 40 *га* азімых культур, 117 *га* яравых, 350 *га* сенажаці і г. д.

Пры ўборцы ўраджаю калгасам праведзена вялікая барацьба са стратамі. Збожжавыя культуры калгасьнікі жалі машынамі і рукамі. Пасьля машын акуратна зроблена зграбаньне раструшаных каласоў. У мэтах папяраджаньня страт, калгасам былі скарочаны ўсякага роду перавозкі збожжа. Пад дождж не папала ніводнага снапа збожжа. Усё гэта дзякуючы таму, што на ўборачную кампанію ў калгасе былі мабілізаваны ўсе сілы жанчын і мужчын-калгасьнікаў, якія на аснове зьдзельшчыны, сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва фарсавалі тэмпы ўборкі.

Уборка бульбы ў калгасе таксама пасьпяхова закончана. Частка бульбы забуртавана ў капцы, а частка зьвезена ў бульбахавальнікі.

Калгасам на 100 проц. сваячасова закончана асеньняя сяўба. Засеяна 72 *га* жыта. У час сяўбы калгас добра змагаўся за агратэхнічныя мерапрыемствы, якія забясьпечваюць падвышэньне ўраджайнасьці. Насеньне на ўсе 100 проц. калгасам праверана і ачышчана. На плошчы 48 *га* жыта пасеена з угнаеньнем (часткова гноем і мінэральным угнаеньнем). Скарочаныя тэрміны сяўбы—рашаючае ў падвышэньні ўраджайнасьці. Добра зразумеўшы гэта калгасьнікі сяўбу азімых скончылі да 25 верасьня.

Зараз, калі калгас больш менш управіўся з асноўнымі гаспадарчымі работамі (уборка, сяўба, зябліва, малацьба і інш.) і ў калгасьнікаў ёсьць больш свабоднага часу, у калгасе на асеньня-зімовы час арганізоўваецца школа-гурток па агратэхнічнай вучобе калгасьнікаў. У гэтым агратэхнічным гуртку мяркуецца прапрацаваць асноўныя прасьцейшыя пытаньні па сельскай гаспадарцы ў галіне паляводзтва і жывёлагадоўлі. Акрамя гэтага на сходзе калгасьнікаў шырока распрацавана пытаньне рацыяналізацыі і вынаходніцтва ў калгасе. Праўленьне калгасу шырока апавясьціла калгасьнікаў, каб апошнія давалі пісьмовыя і вусныя рацыяналізатарскія прапановы па пытаньнях узьняцьця ўраджайнасьці, павялічаньня прадукцыйнасьці жывёлы, палепшаньня работы сельскагаспадарчых машын і г. д.

### Абавязкі перад дзяржавай— у першую чаргу

**Важнейшыя** пастановы партыі і ўраду, накіраваныя на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу (аб збожжазагатоўках, мясазагатоўках, калгасным гандлі, аб рэвалюцыйнай законнасьці, захаваньні грамадзкай уласнасьці і інш.) партячэйкай шырока распрацаваны з калгасьнікамі. Добра зразумеўшы палітычную важнасьць гэтых пастаноў, калгас у першую чаргу выконвае свае абавязацельствы перад дзяржавай. Калгасам ужо здадзена (прадана) дзяржаве 31,16 *цнт* збожжа альбо 111,3 проц. пляну. Плян здачы (продажу) жыта ў гэтым ліку выканан на 127 проц. і ячменю на 198 проц. Калгас здаў 80 *цнт* бульбы, 5,6 *цнт* ільнасемя, 25,69 *цнт* сена і г. д.

Шырока распрацаваўшы адозву ленінградзкіх рабочых, па ініцыятыве асобных камуністаў, камсамольцаў і рэдкалегіі насьценгазэты „Ударнік“— калгас узяў на сябе канкрэтныя абавязацельствы па далейшым выкананьні і перавыкананьні сваіх абавязкаў перад дзяржавай і выклікаў на сацыялістычнае спаборніцтва калгас „Слава“ Асіпавіцкага раёну.

Калгас „Новы селянін“ мае жывёлагадоўчы напрамак. СТКФ мае 150 галоў сьвіней. Пляны здачы

таварнай прадукцыі за першыя тры кварталы калгасам выкананы поўнасьцю. Для выкананьня пляну 4-га кварталу ў ліку 3,5 *цнт* калгасам пастаўлена на адкорм сьвіньня. Усяго пастаўлена на адкорм 22 галавы, частка з якіх пойдзе ў плянавую нарыхтоўку мяса, а частка для арганізацыі гандлю мясам на калгасным базары.

Калгасьнікі калгасу „Новы селянін" арганізавана, пад кіраўніцтвам партячэйкі і працаздольнага праўленьня, на чале якога стаіць член партыі т. **Каўцяк**—упэўнена ідуць да новых перамог на фронце арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасу.

### Ацэнка працадня павялічылася ў чатыры разы

Ударна працуючы па выкананьні плянаў веснавой сяўбы, уборкі, асеньняй сяўбы і інш. Змагаючыся пры гэтым за якасьць работы—калгасьнікі ў гэтым годзе значна павысілі ўраджайнасьць сваіх палёў, і гэтым павялічылі даходнасьць свайго калгасу.

Згодна папярэдніх няпоўных падлікаў, ацэнка працадня калгасьніка ў гэтым годзе павялічваецца амаль у чатыры разы, супроць мінулага году. Калі ў мінулым годзе калгасьнік атрымліваў на працадзень 0,9 *кг* збожжавых культур, 5,25 *кг* бульбы і 7 капеек грошай, дык у гэтым годзе калгасьніку прыпадае на працадзень 1,7 *кг* жыта, 1 *кг* ячменю, 1 *кг* грэчкі, 300 грам аўса—усяго збожжавых 4 *кг*, бульбы—8 *кг* і грошай звыш аднаго рубля.

Хто больш і лепш працаваў—той больш і атрымлівае.

Лепшы калгасьнік-ударнік Мельнік Антон, які мае 4 працаздольных члены сям'і да 1 верасьня выпрацаваў 443 працадні атрымлівае 753 *кг* жыта, 443 *кг* ячменю, 443 *кг* грэчкі, 132 *кг* аўса, 36 *цнт* бульбы і звыш 510 руб. грашыма. Тураў Антон Восіпаў з двума працаздольнымі да 1 верасьня выпрацаваў 358 дзён, за якія атрымлівае 1 тыс. 431 *кг* збожжа, 29 *цнт* бульбы і 400 руб. грашыма.

Лепшая ўдарніца-адзіночка тав. Казлова Хвядора выпрацаваўшы 116 працадзён атрымлівае: 473 *кг* збожжавых культур, 928 *кг* бульбы і звыш 150 руб. грошай. Чаранок Тацяна Яўхімава выпрацавала 146 працадзён, дык шмат і атрымлівае.

### „Трэба ісьці ў калгас"

Бачачы тое, што калгасьнікі калгасу „Новы селянін" шмат за сваю працу атрымліваюць, сяляне бедныя і серадняк-аднаасобнікі вёскі Залужжа пачынаюць падаваць заявы аб уступленьні ў калгас.

Вось тыя посьпехі, якія мае калгас „Новы селянін". Зараз гэты калгас моцны, прыкладны ў Старадароскім раёне.

Перамогі калгасу ёсьць перамогі Дражнянскай партячэйкі, якая штодзенна працавала па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасу.

Зараз перад партячэйкай стаіць адна даволі пачэсная і адказная задача. Перабудоўваючы ўсю партыйна-масавую работу, пераносячы яе цяжар у калгасную брыгаду, ячэйка павінна разгарнуць шырокую палітычна-масавую работу па папулярызацыі дасягненьняў калгасу „Новы селянін", сярод аднаасобнікаў-беднякоў і серадняков усяго Дражнянскага сельсавету.

Трэба, каб кожны аднаасобнік ведаў вынікі папярэдняга разьмеркаваньня натуральнай і грашовай часткі даходаў у калгасе. Каб кожны аднаасобнік ведаў лепшых ударнікаў-калгасьнікаў, якія больш атрымалі ад разьмеркаваньня ўраджаю.

**С. Майсеенка.**



За чыткай брыгаднай насьценгазэты ў яўрэйскім нацыянальным калгасе „Сопвег" (Парыцкі раён)

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ—АПЛОТ МІРНАЙ ПАЛІТЫКІ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ, ПІЛЬНЫ ВАРТАВЫ МЕЖАЎ СССР, ВЕРНЫ СТРАЖ ЗАВАЁЎ КАСТРЫЧНІКА!**

# ЛЕПШЫ БАРАЦЬБІТ

*(Уваравіцкі раён)*

Мінулае калгасу імя Будзённага, Крыўскага сельсавету невялікае. Ён арганізаваўся ў 1930 годзе з 13 бядняцкіх гаспадарак. К вясьне 1931 г. у калгасе ўжо 80 гаспадарак. К уборачнай кампаніі ў калгасе ўжо налічвалася 240 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія пераканаліся ў перавазе буйнай калектыўнай гаспадаркі. Яны абагулілі свае засеяныя аднаасобныя пасевы.

У 1932 годзе калгас па ўдарнаму правёў пасеўную і ўборачную кампанію, ён першым у раёне выканаў свае абавязкі перад дзяржавай па здачы (продажу) збожжа, ільну, бульбы і паказаў узоры свае работы ў жывёлагадоўлі. За ўсё гэта РВК узнагародзіў калгас імя Будзённага сваім пераходным сьцягам.

У гэтым годзе калгас імя Будзённага пасьпяхова—першым у раёне—скончыў веснавую сяўбу—засеяў 60[illegible] **га** яравых, з якіх бульбы—197 **га**, аўса—138 **га**, грэчкі—15 **га**, пшаніцы—14 **га**, вікі—30 **га**, гароду—20 **га**, тытуню—12,5 **га**, караньплодаў—10 **га**, ячменю—24 **га**, проса—3 **га** і ільну—35 **га**. У калгасе мелася засеянага жыта—417 **га**.

Уборачная кампанія ў калгасе прайшла пасьпяхова і ў тэрмін ўбрана 417 **га** жыта і яравыя культуры, убрана 450 *га* сенажаці, з якой атрымана 11.600 **цнт** сена, выкапана 150 **га** стэрну, 92 **га** вымачак розных, скошана атава.

Калгас забясьпечыў поўнасьцю сваю МТФ—як галоўную галіну гаспадаркі—кармовымі рэсурсамі. Засіласавана 8 тон сланэчніка і сарнякоў, 9 палявочых брыгад забуртавалі па капцу бульбоўніку, што складае 220 тон сіласу. Такім чынам заданьне па сіласаваньні ў 300 тон калгасам выканана на 100 проц. к 25 верасьня 1932 году. Мяркуецца забуртаваць яшчэ 100 тон батвы і гародных адыходаў.

Летам у калгасе імя Будзённага на працягу 3 месяцаў праводзілася начная пасьба жывёлы, дзякуючы якой кожная дойная карова пачала даваць малака на 1,3 літра больш, чым раней.

Уся начная пасьба кароў дала 119,60 цэнтнераў больш малака. МТФ мае сваіх лепшых ударнікаў-барацьбітоў за разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі, як **Падалячын Я.** С.—загадчык фэрмай—самы адданы працаўнік, пастухі **Баталаяў** і **Іванцоў** і даяркі—гэта ўсе тыя, хто даглядае, доіць і поіць рагатую жывёлу на МТФ у колькасьці 330 галоў. У калгасе ёсьць таксама і СТФ у 55 штук сьвінога пагалоўя, якія маюць самы добры выгляд.

Калгас імя Будзённага плян мясазагатовак III кварталу выканаў у канцы жніўня на 100 проц. (здана 13,5 цэнтнераў мяса).

Ахоплена падпіскай на пазыку „4-га завяршаючага году“ на 5000 р., з якіх ужо ўнесена першых узносаў на 500 руб. Калгас пазычыў у парадку сацузаемадапамогі другім калгасам 100 цэнтнераў збожжавых культур. Калгасьнікі аказалі дапамогу адстаючым калгасам у вясеньняй сяўбе і адпрацавалі ім 560 працадзён.

Па калгасным гандлі калгас імя Будзённага прадаў свае гародная і мясамалочнай прадукцыі на 13.618 руб., якія разьмеркаваны ўжо даўно калгасьнікам па прынцыпу—хто больш і лепш працуе—той больш атрымлівае.

Па прыкладнаму разьмеркаваньню ўраджаю ў калгасе прыходзіцца на працадзень грашыма 72 кап., жыта 1,1 **кг** і астатніх збожжавых па 646 **гр.**, ільну 200 **гр.**, бульбы 10 **кг.** Колькі-ж тады атрымае Іванцоў, які мае 888 працадзён з сям'ёй у 4 працаздольных і колькі атрымае Радзівонава Мар'я, якая мае ўсяго пяць працадзён за ўвесь час?

У гэтым годзе калгас імя Будзённага пабудаваў яшчэ адну абору на 100 галоў буйнай рагатай жывёлы і набліжаецца да сканчэньня цялятніка на 100 галоў, будуецца свой вэтпункт.

Плян асеньняй сяўбы выканан на 91 проц., засеяна 310 **га**, з якіх 15 **га** азімай пшаніцы. Астатнія 9 проц. пасеюцца пасьля выкапк. бульбы. Большасьць палявых брыгад з ліку 9 скончылі асеньнюю сяўбу поўнасьцю яшчэ да 25 верасьня г.г.

У гэтым годзе ў калгасе імя Будзённага было засеяна 135 **га** ільну, які сваячасова выбраны, абабіты і разасланы на сьцелішчах. Асобныя калгасьніцы паказалі ўдарныя тэмпы па ўборцы ільну. Яны перавыконвалі нормы выпрацоўкі і бралі на буксір адстаючых. Плян па здачы ільнанасеньня ў колькасьці 135 цэнтнераў выканан поўнасьцю і калгас прыступіў да разьмеркаваньня ільнанасеньня сярод калгасьнікаў выключна па працаднёх, якога прыходзіцца па 200 грам на працадзень.

Скончыўшы асеньнюю сяўбу калгас імя Будзённага пераключыў сваю працоўную сілу на ўборку бульбы, якой было засеяна 197 **га.** Перад копкай бульбы была праведзена растлумачальная праца па брыгадах, дзе была накіравана думка калгасьнікаў на ўшчыльненьне тэрмінаў уборкі бульбы. Паміж брыгадамі былі заключаны сацумовы на сваячасовы выхад на працу па копцы бульбы, перавыкананьне норм выпрацоўкі, адгрузкі і рад іншых пытаньняў.

У парадку самаабавязацельства калгас імя Будзённага на правадзімых сходах (брыгад) абавязаўся выканаць гаспадарча-палітычныя кампаніі ў гонар 15 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, як па збожжазагатоўках, адгрузцы бульбы, зяблівымворыве, выкананьні пляну мабілізацыі сродкаў (гадавы плян) і шэраг іншых.

**А. Казіміраў.**



Асеньняя сяўба ў калгасе імя Фалько (Койданаўскі раён).

# ЛІЧБЫ ГЕРАІЧНЫХ ПЕРАМОГ

(*Расонскі раён*)

Калгас „Пралетарская перамога“ нарадзіўся ў сакавіку месяцы 1929 году з 86 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Зараз калгасьнікі ўспамінаюць пра гэтыя часіны.

— Цяжка было распачынаць калектыўнае жыцьцё. Кулакі ў тыя гады, чуючы сваю няўхільную пагібель на кожным кроку стараліся падарваць нашу работу. У ход пускаліся розныя беспадстаўныя плёткі пра калгас.

Але гэта не дапамагло ім разбурыць калгас.

Калгасьнікі добра разумелі, што да мінулага жабрацкага жыцьця звароту няма і ня будзе. Трэба клапаціцца толькі аб будучым. Сёньня калгас арганізацыйна і колькасна значна ўзрос. Замест 86 гаспадарак калгас яднае 148 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Калгас апрацоўвае звыш 100 **га** зямлі. У калгасе ёсьць свая кузьня, якая абслугоўвае патрэбы ваколічных калгасаў і аднаасобнікаў сельсавету.

Арганізавана малочна-таварная фэрма, якая складаецца з 87 малочна-прадукцыйных кароў, 5 штук племянных быкоў і каля 30 штук маладняку. Праца на фэрме пастаўлена ўзорна. На аснове зьдзельшчыны і сацспаборніцтва фэрма дабілася вялікіх посьпехаў. Калі раней удой складаў усяго 250—260 л траў, то цяпер даходзіць да 300 і болей. На фэрме працуе ўсяго 5 даярак, якія поўнасьцю спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Для пераапрацоўкі малака-прадукцыі ў калгасе пабудаван масларобны завод.

Акрамя гэтага калгас мае ня менш важную крыніцу прыбыткаў—пчалярства. Пчолы не патрабуюць многа рабочай сілы, 96 вульлёў калгасных пчол даглядае 70-ці гадовы пчаляр Тарасаў Сенафон.

— Ну і шанцуе-ж нам,—усьміхаецца стары Сенафон.—Ужо зараз за аднаго толькі паўмесяца далі 17 раёў і значную колькасьць мёду. Я ўсё жыцьцё разводзіў пчол і ніколі ня бачыў такога раеньня.— І ў словах Тараса чуецца вялікая радасьць і асалода перамогі.

Вялікі даход калгасьнікі „Чырвонай перамогі“ атрымалі ад вывазу сельскагаспадарчай прадукцыі на савецкі базар. За першы выезд на рынак было выручана 829 руб. і 60 кап. Кожны базарны дзень прыносіў калгасьнікам новыя і новыя сотні прыбыткаў.

Агульная сума, выручаных грошай яшчэ на 25 ліпеня складала 6.620 руб. 39 кап. 4.362 руб. з гэтай сумы скарыстаны выключна на авансаваньне калгасьнікаў, а рэшта на розныя гаспадарчыя патрэбы.

Калгасьнікі „Чырвонай перамогі“ дамагліся вялікіх посьпехаў у сваёй рабоце, дзякуючы шырокай масава-растлумачальнай работы і правільнай арганізацыі працы.

**Мікола Яроменка.**

# ВАРАШЫЛАЎЦЫ НАПЕРАДЗЕ

(*Магілеўскі раён*)

Правільная арганізацыя працы на падставе зьдзельшчыны і замацаваньня брыгаднага мэтаду працы далі магчымасьць калгасу імя Варашылава, Цішоўскага сельсавету, ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян асеньняй сяўбы і збожжазагатовак. Значная арганізуючая дапамога калгасу ў пасьпяховым выкананьні асеньніх сельскагаспадарчых работ была аказана з боку вытворчага вучастку МТС № 4.

20 верасьня калгас закончыў сяўбу, пасеяўшы 38 **га** замест прадугледжаных па пляне 34. Сяўба ў калгасе праведзена пры выкананьні прасьцейшых агратэхнічных мерапрыемстваў, пасеў утвараўся чыстагатунковым насеньнем лепшай якасьці, пры добраапрацаванай глебе і скарыстаньні мінэральных угнаеньняў. Засеянае жыта ўжо дало добрыя ўсходы. Гэта гарантуе калгасу высокую ураджайнасьць.

Сваячасовая выдача авансаў калгасьнікам у разьмеры 15 проц. узьняла яшчэ большую актыўнасьць і зацікаўленасьць калгасьнікаў да працы і яны па баявому ўзяліся за бульбаўборку.

Не адстае калгас і ў выкананьні сваіх першачарговых абавязкаў перад дзяржавай. Плян збожжазагатовак выканан поўнасьцю. Варта асобна адзначыць, што адгрузка бульбы пралетарскім цэнтрам праходзіла прама з баразны і ў вагон, прычым была асабліва зьвернута ўвага на якасьць бульбы. Калгас выканаў плян па адгрузцы бульбы на 100 проц.

У адказ на ліст ленінградзкіх рабочых, калгасьнікі мяркуюць здаць звыш пляну некалькі цэнтнераў бульбы.

Зараз калгас пераключыў усю рабочую і цягавую сілу на хутчэйшае сканчэньне ўборкі і пераворваньне бульбы, а таксама ўзьмётку пад зяб. Менавіта для ворыва пад зяб вылучана спэцыяльная брыгада калгасьнікаў з 10 коньмі, якая паставіла сабе мэтай не пазьней вызначанага тэрміну поўнасьцю выканаць плян зяблівага ворыва.

Калгас імя Варашылава варты таго, каб ад яго бралі прыклад і другія калгасы ў рабоце па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасу.



Уборка бульбы ў калгасе „Новы шлях“.

**Гэдя Модлін.**

# „Чырвоны кавалерыст“

(*Нарыс ТОДАРА АЛЕСІНА*)

Тады Аляксей Гвідонавіч Галінскі прышоў з Чырвонай арміі, калі па ўсёй савецкай краіне—у хатах-чытальнях і клюбах, а часамі проста ў хатах сельскіх выканаўцаў зьбіраўся народ. Адны зьбіраліся і разумелі для чаго, другія таксама разумелі для чаго ішлі на сходы, а трэція на ўсё гэта глядзелі як на нешта нязвычайнае, недасяжнае, немагчымае.

Таму вось 65-гадовая бабулька Параска—Аляксеева матка, яшчэ на той бок парогу спаткала свайго сына і, праз прывітальныя сьлёзы, прагаварыла:

— У час сынку, у час... Раскажаш, дзіця, што гэта робіцца на сьвеце?

Аляксей Гвідонавіч пацалаваў матку ў руку, пацалаваўся з бацькам і падумаў:

„Ніколі здаецца мая матка ня была такою заклапочанаю, як зараз“.

... З прычыны прыходу дадому Аляксея Гвідонавіча—дарагога гасьця—стары Галінскі пазваў суседа Зьмітро Іванавіча і наладзіў абед.

Маленькія вокны старэнькай хаткі, з выпуклаю паўночнаю сьцяною, углядаліся ў імглісты асеньні дзень і без затрымкі прапускалі на вуліцу ўсе словы, што гаварыліся ў хаце. Амаль ад кожнай шыбы адваліўся кіт, былі шчылінкі... А гутарка ішла жывая. Першы раз яшчэ пра такія пытаньні гаварыла сям'я Галінскіх.

— Ну, дык я-ж і кажу, сынку,—скончыўшы абіраць распараную бульбіну гаварыла Параска.— Можа й добра нам будзе жыцца ў калгасе. Але страшна... Я ўчора чу-ў...

Зьмітро Іванавіч абарваў Параску на паўслове. Паглядзеў пытальна на Аляксея Гвідонавіча і ціхім голасам вытлумачваў нерашучасьць сваіх думак пра калгас і Парасчыных.

— Мы ўчора вышлі з чытальні, дык Сялівончык гаворыць...

— А Сялівончык яшчэ не раскулачаны?—запытаў Аляксей Гвідонавіч.

— Да не, ён у нас актыўны,—вытлумачыў стары Галінскі.

— М-гу... — зьдзіўлена прамармытаў Аляксей Гвідонавіч.

— Дык вось,—далей гаварыў Зьмітро Іванавіч, — Сялівончык гаворыць: тое, што калгас то калгас, але не забывайце, мужчыны, што скора вайна будзе. Вось я, як вы самі чулі на сходзе, першы падаюся ў калгас, а як прыдуць палякі, то каму першаму пападзе. Думаеце Нічыпараву камсамольцу, што ўгаварвае нас у калгас, ці сакратару партыйнай ячэйкі? Не, тады іх ня будзе, пападзе першым нам, калгасьнікам. Разумееце што гэта значыць—пытаю я?

— Дык усяго чалавек думае,—заключыў Зьмітро Іванавіч.

Аляксей Гвідонавіч зачэрпнуў лыжку грэцкага крупніку, ледзь сіваватага ад скупой порцыі малака сказаў:

— І на самай справе, вы разумееце Сялівончыка?

— А хто-ж яго ведае? — выцiснула скрозь зубы Параска.

— А, ты, мама, забылася, як я пасьвіў у яго каровы, ды ён мяне карміў цьвілым хлебам, га? І ты-ж сама гаварыла, што калі пойдзеш да яго жаць жыта, дык цэлы дзень, амаль, галодная. Нават не пакорміць добра. А хіба мала яму людзі нажыналі жыта.

— Кожны год па коп 35—40,—даведаў да ведама Зьмітро Іванавіч.

— Ну, от. А цяпер вось, калі будзе ў нашай вёсцы калгас,—далей гаварыў Аляксей Гвідонавіч, то Сялівончык гэтага ня мецьме.

— Чаму?—зьдзівілася Параска.

— Таму, што ён кулак... І стараецца ўсякімі спосабамі адгаварыць людзей ад калгасу.

— Дык як-жа гэта так, што ад калгасу? Ен-жа сам ідзе ў калгас першым. Дык...

— А-а-а... цяпер для мяне зразумела,—перабіў Зьмітро Іванавіч.—Чорта хрысьці, а чорт кажа ў балота пусьці. Такі гэта і праўда. Жыў да калгасу багатым, усяго багата меў і цяпер хоча людзей адгаварыць ад калгасу, а сам пойдзе адзін. Будзе мець цэлы калгас. Здорава!..

Па твары Аляксея Гвідонавіча расплылася ўсьмешка. Плечы падняліся бліжэй да галавы. Заўважылі ўсе, што Аляксей Гвідонавіч зьдзіўлена пазірае ў вакно, за якім падымаюцца ў гару высокія купчастыя ліпы і клёны і як-бы наракаюць на сваё існаваньне, што ім яшчэ і да гэтага часу прыходзіцца стаяць пад шэраватымі купаламі многагодняй царквы.

„Палітычна - грамадзкае працы недастаткова“— падумаў Аляксей Гвідонавіч і сказаў:

— Усё вы пераблыталі, не разумееце. Над вамі можа больш працуе Сялівончык і гаспадар гэтых купалоў, чым хто іншы. Але нічога. Калі яшчэ не раскулачылі Сялівончыка, то раскулачым. Гэта першае. А па-другое тое, што Сялівончык і блізка для калгасу ня будзе.



Рыбалоўная арцель калгасу „Камінтэрн“ Чачэрскага раёну.

Доўга яшчэ сядзелі ў хаце Галінскага і гутарылі пра калгас. А Аляксей Гвідонавіч цяпер больш чым калі зразумеў мэту і карысць. тых заняткаў, якія з імі праводзіў палітрук N-га эскадрону Самарскай кавалерыйскай дывізіі тав. Пранічнікаў. Аляксей думаў:

„Так. Армія мне дала зразумець, што такое клясавая барацьба, а я дам гэта зразумець бедняком і серадняком нашай вёскі".

---

На заўтра Аляксей Гвідонавіч прачнуўся калі раніца яшчэ і ня думала расьсейваць сьвятло па размокшых ад восеньняга дажджу вуліцах і дварох. Аляксею ня спалася. Магчыма таму, што ў арміі заўсёды ўставаў а 5 гадзіне раніцы, а мо' таму, што хацелася свой урачысты абавязак скарэй ператварыць у жыцьцё. Свой абавязак Аляксей вытлумачваў з нейкай асаблівай бадзёрасьцю і энтузіязмам.

— „Памятую ў клюбе гарэлі ў два рады электрычныя лямпачкі і ярка асьвечвалі камсамольцаў, што папрыходзілі на разьвітальны камсамольскі сход. Было многа і беспартыйных чырвонаармейцаў. Пасьля дакладу адсека палкавога бюро партколектыву тав. Сайчука, камсамолец другога ўзводу Анішчанка ў спрэчках гаварыў пра задачы, што стаяць перад намі. Спачатку прамова Анішчанкі была ня зусім цікавая. Паўтараўся хлапец, але ў канцы прамовы Анішчанка атрымаў бурныя воплескі. Ён сказаў: „Як прыду дадому, першы буду сябрам калгасу. Штодзенна буду змагацца разам з партыйна-камсамольскай арганізацыяй за калгасы".

Такіх выказваньняў было багата. І такая думка была напісана ў рэзалюцыі, на якой падпісаўся і сам Аляксей Гвідонавіч.

Раніца павольна наступала на ноч.

Да Гвідона ў хату найшло шмат хлапцоў. Дзяліліся з Аляксеем думкамі. Расказвалі адзін другому пра свае прыгоды, пра жыцьцё, пра работу...

Сакратар камсамольскай ячэйкі Цярэшка расказваў Аляксею, што от ужо падрад тры вечары зьбіраюць сходы з пытаньнем арганізацыі калгасу і нічога ня выходзіць.

— Спачатку патрэбна вытруціць кулацкую агітацыю,—уставіў Аляксей.

— Я гэта разумею, — адказаў Цярэшка. — Вось дапаможаш гэта зрабіць нам.



Малацьба ў калгасе імя XII зьезду КП(б)Б.



Маладняк калгасу „Кастрычніцкая рэвалюцыя" Менскага р.

— Зьвеснае дзела,—запэўніў Аляксей Гвідонавіч.

І з гэтага часу ў маленькай, закуранай ад папяроснага дыму хаце-чытальні, нараджалася гісторыя цяперашняй калектыўнай гаспадаркі „Чырвоны кавалерыст". Такую назву далі калгасу таму, што Аляксей Гвідонавіч, як дэмабілізаваны чырвонаармеец-кавалерыст, разам з сакратаром камсамольскай ячэйкі Цярэшкам на працягу паўтары тыдні праводзілі сярод беднаты і сераднякоў вёскі ўпартую работу па арганізацыі калгасу...

Бедната і серадняні ягонай вёскі добра зразумелі, што толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя аслабаніла іх ад Сялівончыкаў і дала магчымасьць будаваць новае, сацыялістычнае жыцьцё.

— А Чырвоная армія,—ня раз гаварыў Аляксей Гвідонавіч,—кожны дзень гатова даць рашучы адпор тым, хто задумае перашкодзіць нашаму будаўніцтву.

І калі сьвяткавалі Кастрычнік у 1930 годзе, прамоўцы ад партыйна-камсамольскіх і грамадзкіх арганізацый з прыемнасьцю залічалі новы калгас у скарбніцу шматлікіх дасягненьняў вёскі П. на Капыльшчыне.

---

Час прайшоў у штодзенных клопатах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасу. Гаспадарка „Чырвоны кавалерыст" акрэпла і мае значны прыліў. На сёнешні дзень калгас „Чырвоны кавалерыст" налічвае 196 **га** пахаці, супроць 100 **га** ў мінулым годзе; 82 **га** сенажаці супроць 40 ў мінулым годзе і 33 **га** пашы супроць 24 **га** ў мінулым годзе. Рабочых коняй у калгасе 27, кароў—47.

У калгасе 345 чалавек, з якіх 105 працаздольных.

На аснове штодзеннага правядзеньня ў жыцьцё агранамічных мерапрыемстваў, калгасьнікі калгасу „Чырвоны кавалерыст" дамагліся значнага падвышэньня ўраджайнасьці сваіх палёў. Так, з гэктара сабрана 11,46 цэнтнераў жыта супроць таго, як аднаасобнікі суседніх вёсак сабралі з гэктара 8,7 **цнт.** Аўса з гэктара сабрана па 9,82 **цнт** супроць аднаасобнага сэктара, які сабраў 7 **цнт** і г. д.

Гэтымі дасягненьнямі па ўраджаі ганарацца калгасьнікі „Чырвонага кавалерыста“. Аднак на гэтым калгас ня спыняецца. Сьвяткуючы 15-ю гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі „Чырвона-кавалерысты“ ўзялі на сябе абавязкі падвысіць ураджайнасьць жыта ў 1933 годзе да 12,50 **цнт**, аўса—да 11 **цнт** і г. д. Па ўдарнаму і на аснове сацыялістычнага спаборніцтва выконваць усю работу зімовага пэрыяду. Заключылі сацыялістычную ўмову з калгасам „Чырвоная зорка“ на скарэйшы і больш якасны абмалот жыта і яравых культур, на больш якасны догляд рагатай і рабочай жывёлы і інш.

На гэтай умове падпісаліся ўсе калгасьнікі, што былі на сходзе. А за словам „старшыня“ ішло прозьвішча Галінскі А. Г.

———

Маленькія вокны старэнькай хаткі з выпуклай сьцяною былі наглуха забіты тоўстымі дошкамі. Толькі два акны засталіся. На ўспамін іх, вядомая рэч, не пакінулі, а для выгады загадчыка калгаснымі складамі. Цяпер у гэтай хатцы ляжыць калгасная вупраж, а сям'я Галінскіх жыве ў нова-пабудаваным 3-х сямейным доме.

Ніводзін раз за абедам Параска—Аляксеева матка—успамінала пра сваё жыцьцё два гады таму назад, а сёньня яна зрабіла параўнаньне:

— Два гады таму назад у мяне ня было нават малака забяліць крупнік ці бульбу.

— Я гэта памятаю,—дадаў Аляксей Гвідонавіч,—памятаю, як прышоў з арміі і елі чуць-чуць толькі забеленую бульбу.

— А зараз,—гаварыла далей Параска,—ямо вараную бульбу, добра забеленую малаком. Вось ляжаць сьпечаныя скваркі, кіслыя гуркі. Зараз у нашай хаце з стала нязводзіцца хлябок. Маем што ўзяць і да хлеба.

— Гэта, мама, яшчэ ня ўсё. Наш калгас ня так то наладжаны. У нас яшчэ багата недахопаў, што дрэннавата адбіваюцца на быце калгасьнікаў. У нас няма належнай працоўнай дысцыпліны, адсутнічае строгі ўлік якасьці і колькасьці працы калгасьнікаў і многа іншых недахопаў. Але пажывом больш, наладзімся лепш.

— Наладзімся,—пацьвердзіла маці, — наладзімся.

— Уся работа наша дарэмна не праходзіць,—далей гаварыў Аляксей.—Вось нам, куды лепей жывецца чым раней, а такіх як мы—многа.

... Калгасьнікі на сваіх вучастках. Ідзе працяг стварэньня гісторыі калгасу „Чырвоны кавалерыст“.

Капыльшчына.

# ШЛЯХ ФЭРМЫ

(*Нарыс* *КЛІМА ГРЫНЕВІЧА*)

### Крыху гісторыі

Гэта было ўвосень 1931 году.

Сьвінарнік поўнасьцю забясьпечан жыхарамі. Няма ніводнага пакойчыку, дзе-б ня было сьвіньні.

На фэрму ў новы, праўда вельмі дрэнна пабудаваны, сьвінарнік паселена 80 сьвінаматак і некалькі мясцовых кныроў.

На фэрме пачалося жыцьцё. З першых дзён усё здавалася вельмі простым і лёгкім, якое звычайна не патрабуе напружанай працы і дбайнай увагі сьвінароў да сваёй работы.

Паміж работнікаў фэрмы ня былі разьмеркаваны абавязкі, да асобнай сьвінаркі ня была прымацавана сталая колькасьць пагалоўя, за якое яна павінна адказаць, якое-б яна даглядала і памятала, што гэта яе.

Ня менш сур'ёзна ўзьнікла пытаньне з рацыёнам кармоў. Спачатку сьвінаркі без разбору праводзілі гэтую справу. Прывозілі на фэрму бульбу. Яны давалі амаль адну бульбу. Прывозілі кукурузу—карміліся выключна кукурузай і г. д. Ня была ўведзена эканомія кармоў і пэўныя чарадаваньні кармоў.

Сьвінароў, якія-б ведалі добра гэтую справу на фэрме яшчэ ня было. Сьвінаркі рабілі сваю работу як ім падабалася або-або хутчэй скончыць яе.

І так паступова фэрма ўваходзіла ў паласу суцэльных недарэчнасьцяй і цяжкасьцяй.

### Янка Саковіч

Такое становішча далей не павінна было існаваць. Пагалоўе з кожным днём меніла. Бруд і безгаспадарчасьць на сьвінафэрме павялічваліся.

— Трэба перайначыць работу,—сказаў Янка Саковіч старшыні калгасу.

— Ты ў мяне маладзец, Янка! Бярыся, братка, за працу... цябе-ж там вучылі, як з імі абыходзіцца...

Саковіч быў спачатку арганізаваньня фэрмы вылучан на курсы тэхнікаў сьвінароў у Чэрыкаў і вучоба для яго не прайшла дарам, ён кожнае слова запамятаў, што гаварылі на курсах, ён атрымаў належныя веды, каб сапраўды перайначыць работу.

Але кожны крок да палепшаньня, сустракаў вялікі штуршок з боку складзенага нявыходнага становішча. Адразу зрабіць перэлом ніяк ня было магчыма.

Але Янка пачаў дзейнічаць ня гучнымі словамі аб палепшаньні і пераломе ў рабоце фэрмы, а канкрэтнымі практычнымі справамі.

Ен прыходзіў на сьвінарнік тады, калі яшчэ ня было сьвінарак, сам вычышчаў сьвінарнік, дапамагаў разносіць страву сьвінаркам. Нікуды не адлучаўся ад сьвінарніку ўдзень і часамі забягаў паглядзець уначы, што робіцца на сьвінарніку.

І сьвінаркі паступова пачалі паважаць яго, слухаць яго дзелавыя прапановы, працаваць разам з ім.

### Першае наступленьне

Фэрма заставалася ў вельмі цяжкім становішчы. Асобныя сьвінаркі не зьмянілі сваіх адносін да справы.

Брыгадзір Маскалёва Вася зусім ня цікав'лася работай. Сваю работу яна выконвала нават горш за астатніх сьвінарак, часта зусім не зьяўлялася на работу або дачасна пакідала яе і сьвінаркі таксама пасьледвалі яе прыкладу.

Калі яна пачынала што-небудзь загадваць, сьвінаркі яе ня слухалі, пачалася безгаспадарчасьць, самацёк, ніякай плянавасьці ў рабоце ня было.

І Саковіч гэта ўсё сваячасова ўлічыў. Ен быў упэўнен, што далей працаваць Маскалёвай на фэрме немагчыма, што яна толькі спрыяе пагоршаньню работы.

Пасьля ранічнай раздачы кармоў быў наладжан агульны сход работнікаў фэрмы. На сход зьявіліся ўсе, бо далей цярпець было немагчыма, кожнаму хацелася гаварыць аб тым, што даўно накіпела на сэрцы.

Сьвінаркі пачалі абурана высказвацца супроць Маскалёвай. Яны патрабавалі зьняць яе з работы брыгадзіра і наладзіць на фэрме парадак.

І тут-жа разгарнуліся вялікія спрэчкі. Сама сабой на фэрму прышла самакрытыка і толькі трэба было гэта накіраваць у належнае русло.

Гэта было першае наступленьне, гэта быў пачатак пералому.

На гэтым-жа сходзе былі выпрацаваны канкрэтныя мерапрыемствы для палепшаньня работы фэрмы. Сход ухваліў:

— Зьняць т. Маскалёву з пасады брыгадзіра, а таксама і з работы на фэрме.

— Даць суровую вымову Шаўцовай за нядбайныя адносіны да работы.

— Арганізаваць гурток па аўладаньні тэхнікай сьвінагадоўлі, дзе павінен чытаць кніжкі і растлумачваць узьнікшыя пытаньні т. Саковіч.

— Наладзіць чырвоную і чорную дошку на фэрме, дзе штодзенна выяўляць і ганьбіць дрэнныя ўчынкі з боку асобных работнікаў.

— Арганізаваць насьценгазэту, разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

— Змагацца за тое, каб зьнішчыць адыход і наладзіць сваячасовае карменьне і чыстку сьвінарніка.

— Ускласьці адказнасьць на сьвінарку за кожную адышоўшую сьвіньню, якіх яна даглядае.

— Вылучыць фонд для прэміяваньня лепшых работнікаў фэрмы.

І гэта не засталося толькі на паперы, але-ж у жыцьцё праводзілася з вельмі вялікімі цяжкасьцямі.

### Конкурс на лепшага сьвінара

Прыблізна з вышэйадзначанымі недахопамі і посьпехамі прышла фэрма калгасу „Рабочы“ да абвяшчэньня конкурсу на лепшага старшага сьвінара.

Конкурс якраз і зьявіўся тым дапаможнікам, у якім мела патрэбу на даным этапе сьвінафэрма.

У калгасе была абрана камісія па правядзеньні і ажыцьцяўленьні конкурсу па выпрацоўцы неабходных мерапрыемстваў для практычнай работы.

На фэрме закпела работа. Кожны дзень, калі сьвінаркі спынялі работу, праводзіліся гутаркі аб мэтах і значэньні абвешчанага конкурсу.





На другой нарадзе, якую праводзіла камісія садзейнічаньня разгортваньню конкурсу—гэта гутарка аб перабудове работы фэрмы.

На нарадзе было ўхвалена зараз-жа прымацаваць да кожнай сьвінаркі сталую колькасьць сьвінаматак, парасят і г. д.

І гэта адразу-ж пачало праводзіцца ў жыцьцё. На другі-ж дзень Янка Саковіч—тэхнік, ён-жа і зараз і старэйшы брыгадзір раздаваў свае стада паасобным сьвінаркам.

Сьвінаркі ўсім калектывам тут-жа вызначалі імя сваім сьвіньням і на маленькіх дошках прыбівалі на дзьверцах станка.

Сьвінаркі добра зразумелі новую пастаноўку работы на фэрме.

— Я цяпер ведаю „сваіх“ сьвіней. Я і буду даглядаць іх як сваіх, я аддам усе сілы, каб у мяне не адышло ніводнага парася...—так гаварыла лепшая работніца-сьвінафэрмы, сьвінарка Блохіна Галя.

### „Наша вока“

Да гэтага часу на фэрме ня было сваёй насьценгазэты. Самакрытыка заключалася ў тым, што ў час перапынку або пасьля працы сьвінаркі расказвалі пра той або іншы дрэнны выпадак асобнай сьвінаркі, сьмяяліся, кпілі і на гэтым усё канчалася.

Тут адразу і ўзьнікла пытаньне аб арганізацыі сваёй насьценгазэты.

Доўгі час сьвінаркі спрачаліся як назваць сваю насьценную газэту.

Тады Мікола Пабока—лепшы падвозчык вады і кармоў на фэрму, даў прапанову:

— Я думаю даць назву нашай газэткі „Наша вока“. Хай яна зорка глядзіць і карае ўсіх хто дрэнна працуе.

— Правільна!—закрычалі сьвінары.

Вялікую ролю адыгрывае на фэрме „Наша вока“. Яно сапраўды зьяўляецца вокам сьвінагадоўчай вытворчасьці.

Нядаўна была зьмешчана такая заметка.

#### „Барацьба за зьберажэньне посуду

Нам трэба ўсямерна змагацца за захаваньне нашай маемасьці, прылад і посуду. Але ёсьць такія як Маскалёва, якія шкодзяць у гэтым. Ходзячы за малаком на кароўнік разьбіла вядро. Так-жа яна дрэнна наведвае і работу. Часта не сваячасова прыходзіць. Дрэнна адносіцца да работы.

Ганьба і сорам такім работнікам.

**В. С.“**

А поплеч была зьмешчана заметка другога характару.

#### „Малайцы хлопцы!

Нашы пастухі Цыганкоў Аляксей і Пабока Аўхім вельмі добра адносяцца да работы. Сваячасова выганяюць на выпас сьвіней. Добра пасуць. Дапамагаюць працаваць у вольны час на фэрме.

Працуйце так як яны.

**Трахім“.**

Пасьля зьмяшчэньня гэтых заметак была склікана трох-хвілінная нарада. Сьвінары ганьбілі ўчынак сьвінаркі Маскалёвай, таксама адзначылі добрую работу пастухоў.

### Будзем вучыцца

Выключную ролю ў разгортваньні работы па бараццьбе з адыходам, у пасьпяховым правядзеньні злучной кампаніі адыграла вучоба сьвінарак на фэрме па аўладаньні тэхнікай сьвінагадоўлі.

Гурток гэты быў створан яшчэ да абвяшчэньня конкурсу, як толькі прыехаў з вучобы Янка Саковіч. Спачатку яго вельмі дрэнна наведвалі сьвінаркі. Яны, як нам вядома, яшчэ ня былі зацікаўлены ў інтэнсыўнасьці сваёй работы, а таму і гурток гэты лічылі непатрэбнай справай.

І толькі тады, калі яны зразумелі, што гурток будзе дапамагаць ім у іхнай, штодзеннай рабоце, яны пачалі сваячасова і рэгулярна наведваць гурток.

Кожная тэма, якую распрацоўвалі на занятках, дапасоўвалася да той або іншай кампаніі, якая праводзілася на фэрме. Васною, напрыклад, распрацоўваўся матар'ял аб выпасе сьвіней, аб кармленьні сьвіней травой і г. д.

Калі падышла злучная кампанія распрацоўваўся матар'ял аб правілах правядзеньня злучкі, аб умовах у каторых павінны знаходзіцца кныры і сьвінаматкі перад наступленьнем злучной кампаніі.

Пасьля кожнага асобнага пункту выпрацоўваліся практычныя мерапрыемствы, што магчыма зрабіць у фэрме, каб прайшла злучная кампанія з большай пасьпяховасьцю.

### „Чаму ў мяне ня так, як у Блохінай“

Сьвінарка Шаўцова Маланка на вытворчай нарадзе скардзілася:

— Чаму ў мяне ня так, як у Блохінай. Я-ж таксама, здаецца, добра працую.

Блохіна даглядае 17 сьвінаматак, 2 кныры, 3 супаросных і каля 30 парасят. На працягу летняга пэрыяду адыходу ў яе зусім няма. Злучная кампанія ў яе прайшла добра. Усе халастыя маткі пакрыты. На сьвінарніку ў яе поўны парадак і чыстата.

Блохіна ня ведае стомы. Яна раней за ўсіх прыходзіць на сьвінарнік, адразу-ж прымаецца за работу. Ня было ніводнага выпадку, калі-б яна хоцьбы на хвіліну спазьнілася на работу. Яна часта расказвае:

— Як я магу спазьніцца хоць-бы на адну хвіліну, калі мяне як быццам маленькае дзіцё ў калысцы, клічуць парасяткі, просят есьці, вычысьціць бруд, напаіць. І я іх слухаю. Фэрма—гэта мая другая сям'я.

Узімку, калі яшчэ на фэрме панавала безгаспадарчасьць, амаль ня чысьціліся станкі, гінула па 4—5 парасят у дзень, яна першай прапанавала ўвесьці сталае дзяжурства каля малых, усімі сродкамі дамагацца зьнішчэньня адыходу. Той або іншы дзень, калі дзяжурыў хто-небудзь другі, яна ўсёроўна ўначы прыбягала на сьвінарнік.

### Лепшыя ўдарнікі

Нядаўна на вытворчай нарадзе рабіўся агляд вынікаў сацспаборніцтва і выяўленьня лепшых ударнікаў. Саковіч вынес наступных лепшых сьвінарак на абгаварэньне:

— Сільчанка Наста—працуе на фэрме 2 гады. Даглядае 10 халастых матак, 20 парасят, 3 падсосных матак і 10 супаросных. У станкох бруду зусім няма. Сваячасова прыходзіць на работу. Усе халастыя маткі пакрыты. Зьвяла да рэшты адыход. Працуе сумленна...

— І другая лепшая ўдарніца—гэта Блохіна Ганна. Яна трымае сваё стада ў паказальных умовах. Адыходу ў яе зусім няма. Халастыя маткі ўсе пакрыты. Працуе лепш за ўсіх на фэрме.

Нарада аднагалосна ўхваліла прапанову Янкі Саковіча. Але Блохіна зноў загав рыла.

— Самы лепшы ўдарнік-герой—гэта Янка Саковіч. Хто лепей і больш за яго працуе? Ніхто.

— Янка—наш лепшы ўдарнік!—падтрымалі яе ўсе на вытворчай нарадзе. І Янка Саковіч заслужыў сабе гэта пачэснае імя.

### Вынікі

Вось канкрэтныя вынікі:

З маленькага стада, якое складалася ў мінулую восень з 80 галоў, зараз фэрма дасягнула агульнай колькасьці пагалоўя ў 300 сьвіней. Трэба яшчэ ўлічыць тое, што ўзімку з маючыхся 80 адышло каля 30 старых сьвінаматак.

Злучная кампанія дзякуючы аўладаньню тэхнікай злучкі прайшла пасьпяхова за выключэньнем 3-х праўда ня зусім добрых халастых матак, пакрыты і зацяжаралі ўсе маткі.

Што датычыцца да выкананьня плянаў здачы таварнай пр дукцыі, дык яны шчыльна зьвязаны з выкананьнем вытворчых плянаў фэрмы. На сёнешні дзень па здачы таварнай прадукцыі фэрма выканала свой гадавы плян на 102 проц.

Зараз ужо дабудоўваецца новы больш прасторнейшы і лепшы сьвінарнік. Па-ўдарнаму праводзіцца ўцяпленьне сьвінарнікаў на зімоўку. Сьвінары часта ўспамінаюць:

Сьвіньню—калгасьнікі і сьвінары калгасу „Рабочы“ добра зразумелі і зараз вельмі чула адносяцца да яе патрабаваньняў.

Клімаўшчына.





Павышаючая падстанцыя Дняпрогрэсу

# Дняпро працуе на С...

„Дзецішча першай пяцігодкі—Дняпрогрэс

жаньня—450 тыс. конскіх сіл—самую тан

лікшая ў сьвеце плаціна даўжынёй у 76(

аб'ёмам у 720 тыс. кубамэтраў бэтону—пр

## ШТО ДАЕ ДНЕПРАБУД САЦЫЯЛІСТЫЧНАМУ ЗЕМЛЯРОБСТВУ

Плаціна падняла ваду на Дняпры на 37 м. Вада рынулася ўшыркі, напоўніла балкі, аўрагі. Вышэй плаціны стварылася возера, глыбіня якога ў некаторых месцах дасягае 81 м., г. зн. роўна глыбіні Балтыцкага мора.

Дзякуючы гэтаму створана добрая база для абвадненьня стэпаў на сярэднім Дняпры. У першую чаргу абвадняюцца 42 тыс. га. ДГЭС дае энэргію ваданасосным станцыям, ужо створаным на адлегласьці ад Днепрапятроўску да Запарожжа.

Калгасы і саўгасы Прыдняпроўя электрыфіцыруюцца на базе таннай дняпроўскай энэргіі. Ужо гэтай восеньню ў радзе калгасаў і саўгасаў зяблівая ўспашка адбывалася пры дапамозе электраплуга. Вытворчасьць электраплуга даходзіла да 20 га ў суткі.

Замена гнойных парнікоў электрычнай расадай дазваляе на працягу бліжэйшага году вызваліць усе садова-гародныя саўгасы і калгасы Днепрапятроўшчыны ад неабходнасьці карыстацца дарагім і цяжка перавазімым гноем і перайсьці на ўласную электрычную расаду.

На базе таннай дняпроўскай энэргіі на Днепрапятроўшчыне, у Данбасе, прамысловых цэнтрах паўднёвай Украіны ствараюцца электрычныя грыбніцы, у якіх вырашчваньне грыбоў будзе адбывацца круглы год.

Электрычнасьць выкарыстоўваецца таксама для сіласаваньня.



Мітынг каля плаціны Дняпрогрэсу



Адна з вуліц нов...

Нарэшце, адкрыцьцё Днепрабуду ... шэньне транспартнай праблемы Дняп... Баку—Батумскага нафтаправоду да с...

У будучым, калі створаны будуць ... ў раёнах Нікаполя і Кахоўкі, будзе ... стэпаў. Адбываецца рэканструкцыя ... на водагаспадарчай базе. Ніжнядняпр... часьці тэхнічнай сыравіны, прадуктаў...

Абвадняемы сельскагаспадарчы ... між Перакопам і Кахоўскай робіцца ... вых і тэхнічных культур (пшаніца, ба... забясьпечыць стварэньне ўстойліва... і ў значнай ступені вызваліць прамы... нічнай сыравіны з-за мяжы.

„Камунізм — гэта Сав...

электрыфікацыя ўсёй ...

## …а сацыялізм

…імчыць па правадох вялікага напру-
…ную ў сьвеце электраэнэргію. Найвя-
… мэтраў, вышынёй каля 50 мэтраў і
…арэзала магутны Дняпро"

(З рапарту трохкутніка Днепрабуду)



Жылыя дамы рабочых у новым Запарожжы

### БУЙНЕЙШЫЯ ГІДРАСТАНЦЫІ Ў СЬВЕЦЕ

| | | |
|---|---|---|
| **САВЕЦКІ САЮЗ** | | |
| Днепрабуд | 810.000 | конскіх сіл |
| Волхаўбуд | 80.000 | „ „ |
| **ПАЎДНЁВА-АМЭРЫК. ЗЛУЧАН. ШТАТЫ** | | |
| Тенеская | 620.000 | конскіх сіл |
| Ніагарская | 430.000 | „ „ |
| **КАНАДА** | | |
| Альмалін (р. Сегеней) | 510.000 | конскіх сіл |

Даўжыня Дняпроўскай плаціны—760 мэтраў, шырыня—40 мэтраў, вышыня каля 60 мэтраў, г. зн. прыкладна вышыня дзевяціэтажнага дому. Плаціна паглынула 110 млн. пудоў бэтону. Яна падняла ўзровень Дняпра на 37 мэтраў.



…га Запарожжа

…адзначае сабою таксама і выра…ра. Адкрыт прамы водны шлях ад …сельскагаспадарчых раёнаў Украіны. …зьве плаціны на Ніжнім Дняпры … абводнена паўтары мільёны га … сельскагаспадарчай вытворчасьці …оўе ператвараецца ў раён вытвор… …жывёлагадоўлі і таварнай пшаніцы. …асыў паўднёва-украінскіх стэпаў …раёнам найкаштоўнейшых збожжа… …оўна, каучуканосы). Гэта павінна …а страхавога кліна працкультур …ловасьць СССР ад завозу тэх-

**…ецкая ўлада плюс**
**…краіны". ЛЕНІН.**



Трамвайны рух у новым Запарожжы.

# САКРЭТ ПЕРАМОГ

*(Магілеўскі раён)*

З левага боку Магілеўска-Гомельскай шашы невялікай кропкай чарнее вёска Грабянева. Увесь Грабянеўскі сельсавет у дробных пасёлках і хутарох. Тут яшчэ зусім нядаўна арудваў хутарскі кулак, прыціскаў пасёлкавую беднату, смактаў кроў магілеўскі гандляр, ды і самі пасёлкі жылі ня ў згодзе паміж сабой. Так і жылі ў нэндзе, бядоце, галечы і нястачы, грабянеўскія батракі і бедякі. Праходзілі гады за гадамі, — Грабянеўскія бедякі і батракі глыбей усьведамлялі сваё нікчэмнае існаваньне.

Зараз няма Грабянеўскіх пасёлкаў—ёсьць калгас „Колас".

— Каб ня было таго, што летась, — гаворыць старшыня калгасу Беленькі, — мы ўсю сваю рабочую сілу разьбілі на тры сталыя брыгады. За брыгадзірамі замацавалі пэўныя вучасткі поля, коні, машыны, збрую інвэнтар.

— Абязьлічка ў нас цяпер ня знойдзе сабе прыстанішча,—сьмяецца Віктар.

І сапраўды, кожны ведаў свае месца. Коні і машыны прымацаваны да асобных людзей, якія за спраўнасьць іх адказваюць ня толькі перед праўленьнем калгасу, але і перад усёй калгаснай грамадзкасьцю. Уважлівыя адносіны да каня і зімою і ў пачатку вясны забясьпечылі 100 проц. выхад конскага пагалоўя на веснавую сяўбу. Канюхі змаглі наладзіць добры дагляд, правільнае кармленьне і паказалі папярэднім канюхам, як патрэбна адносіцца да каня.

За некалькі дзён да пачатку сяўбы арганізавалі яшчэ раз праверку рухавасьці брыгады,—быў прызначан пробны выезд у поле.

Людзі паказалі сваю баявую гатоўнасьць з манэўраў пераключыцца на практычныя работу і сяўбу.

Добрыя прыклады вясеньняй сяўбы ўзяты для ўборкі, непаладкі ўлічаны, каб зноў іх не паўтарадь. Людзі зноў расстаўлены для ўборачных работ. Склад брыгад застаўся той самы. Гэта палегчыла арганізацыйную работу праўленьня калгасу. Адразу прыступілі да рамонту сельскагаспадарчага ўборачнага інвэнтара, распрацоўкі канкрэтных заданьняў для кожнай брыгады.



Уборка бульбы ў калгасе „Бязбожнік" (Пухавіцкі раён).



Лепшы ўдарнік-камсамолец тав. Шапіра з яўрэйскага нацыянальнага калгасу „Сонвег" (Парыцкі раён).

Кожны калгасьнік ужо на справе ўбачыў, як гэта добра, калі не таўкліся каля аднаго месца, калі ня браліся ўсе за адну справу, а другая чакалі—пакуль за яе возьмуцца цэлай грамадой. Правільнай і бесьперабойнай працы брыгады на паасобных вытворчых вучастках дапамагаюць падбрыгады (зьвеньні). Брыгадзір добра ведаю ўсю сваю брыгаду і ведае, дзе хто працуе.

Брыгадзір дакладна ведаў свой прамфінплян, ведаў і кожны член брыгады колькі яго брыгада павінна скасіць сенажаці, зжаць збожжа, зрабіць праполкі і так ад пачатку да канца вытворчага працэсу, аж да здачы (продажу) таварнай прадукцыі дзяржаве.

Пачалася ўборка. Цэнтр усяго цяжару лёг на брыгаду. Віктар першым падняў пытаньне аб заключэньні сацдагавору на лепшае правядзеньне ўборкі паміж брыгадамі. Жывая схватка людзей у гераічным і сьвядомым змаганьні за сканчэньне ў тэрмін уборкі...

Пасьля дзеннай работы калгасны актыў зьбіраўся ў канцылярыі праўленьня. Падводзілі вынікі работы. Ускрывалі недахопы, рабілі наметкі найхутчэйшага выпраўленьня іх, вызначалі заданьні на заўтра. Гэтыя малыя сходкі актыву адыгралі рашучую ролю.

Найбліжэйшы памоцнік сельсавету, ячэйкі і праўленьня—калгасны актыў. На гэты актыў ускладаецца адказнасьць у дапамозе ў працы брыгадзіра. Гэта людзі, якія хварэюць за калгасную маемасьць; яны прыходзяць у праўленьне, да сакратара партячэйкі, старшыні сельсавету і сыгналізуюць аб недахопах. Яны ўсёй істотай адданы калгасу. Такіх, як былыя батракі—Садоўскі Нестар, Хамін Церах, і Генькіна Чэрня нельга моўчкі абмінуць. Ды ці толькі яны? Іх яшчэ льга налічыць дзесяткі ў калгасе.

Яшчэ з вясны калгас распрацаваў нормы выпрацоўкі і расцэнкі па ўсіх відах работ. Нормы і расцэнкі добра ведае кожны калгасьнік. Яны распрацоўваліся сумесна з плянам. Акрамя таго, брыгадзір, даючы нарад, напамінае калгасьніку аб яго норме і расцэнцы. Кожны калгасьнік, дзе-б ён ні працаваў ведае, колькі яму трэба выпрацаваць.

Ні адна маленькая работка ў калгасе не праводзіцца абязьлічана. Усе работы ў калгасе пераведзены на зьдзельшчыну. Запіс працадзён вядзецца выключна па ўліку выпрацаванай нормы і якасьці працы. У запісах брыгадзіра адзначаецца колькасьць і якасьць работы кожнага калгасьніка. Зьдзельшчына спрыяла сваячасоваму выхаду калгасьніка на поле і добрай рабоце.

— Нам ня трэба прыганятыя,— гаворыць Чэрня, — у нас кожны сачыць за сабой, ведае, што хто больш і лепш працуе, той больш і атрымае.

Уборка—ударны час. Усе сілы кінуты на барацьбу са стратамі. Усё збожжа зжата ў васковай сьпеласьці на 5 дзён раней тэрміну. Гэта дало калгасу каля сотні цэнтнераў лішняга збожжа.

— Патрэбна ўтварыць падграбаваньне пасьля звозкі снапоў,— дае распараджэньне Беленькі.

Моладзі даручылі гэту работу. Лепшымі ў гэтай рабоце выявілі сябе маладыя ўдарнікі — Лагун Нохім, Дагун Майсей і Годзін Моцік.



Стада МТФ калгасу імя Сталіна.

Уборка праходзіла па ўдарнаму і нішто ня ўнікла ад гаспадарлівага вока Беленькага.

На ўвесь час уборачнай калгас арганізаваў варту. Цэлымі часамі працтойваў дзед Мікіта на полі, вартаваў збожжа.

— Гэта-ж столькі збожжа! Трэба, дзеткі, пільна сачыць, бо ёсьць яшчэ людзі, што ня пройдзе, каб ня ўзяць. Я іх тут усіх добра ведаю,—гаварыў Мікіта.

Калгас закончыў уборку азімых за 8 дзён, а яравых за 17 дзён. І разам зьвяно брыгады вязала, зносіла і складала снапы ў бабкі. А прасохлае адразу зносілі ў гумно і тут-жа ўтваралі першы абмалот і здачу (продаж) дзяржаве новага хлеба.

Калгас „Колас“ пад непасрэдным кіраўніцтвам парт'ячэйкі на чале з таварышам Абложным і клапатлівай дапамогай з боку старшыні сельсавету т. Дзімідзенка, скончыў збожжазагатоўкі поўнасьцю першым па раёне 5-га верасьня.

У штурме вяршынь высокага ўраджаю „коласаўцы“ дамагліся значных посьпехаў. Так, летась ураджай з 1-га быў у 6—7 цэнт., а цяпер 9—10, а ячменю 14 цэнт. Поруч з уздымам ураджаю павысіўся і прыбытак калгасу, прыкладна ў 3,5 разы. Цяпер калгас мае прыбытку толькі з 1-га мая 24.070 руб.

Побач з высокатаварнасьцю збожжавых культур, калгас „Колас“ мае добрую фэрму. Пры ўмелым кіраўніцтве вопытнага гаспадара Шандарэя Гіршы фэрма дае вялікі прыбытак калгасу. Сярэдні ўдой з 82 кароў (сярод якіх ёсьць і перадойкі) каля 500 літраў малака. Уведзена правільнае карменьне рацыянальна скарыстоўваюцца кармы і правільна арганізаваны выпас на полі. Лепшымі скотніцамі даяркамі выявілі сябе: Розэнблюм Хая, Шахновіч Бэйля і Шандарэй Бася, і сам брыгадзір жывёлагадоўчай брыгады тав. Шандарэй Гірша, які ад іх у захапленьні.

За пэрыяд паміж уборкай збожжавых і бульбакапаньнем, калгас убраў 4 **га** гуркоў і цалкам іх рэалізаваў, ільну 2,5 **га**, памідор 1 **га**. А цяпер ідзе паступовая рэалізацыя капусты з 8 **га**. Засіласавана 100 тон зеляніны, засеяна 70 **га** азімых (па пляне было 40 **га**) узьнята зябі 15 **га** і ўзьнята цаліны 30 **га**.

## Ён у брыгадзе першы

Віктар Савіцкі прывучыў сябе ўставаць на гадзіну раней брыгады. Ён устае, праглядае сваю запісную кніжку.

Брыгада прывыкла да дысцыпліны. Кожны ведае, што калі ён прасьпіць, пападзе ў прагульшчыкі, ня выканае нормы і не запішуць працадня.

Перад канцом работы Віктар падлічвае і запісвае, што зроблена за дзень брыгадай і аддае зьвесткі ў праўленьне. Намячае праграму, згодна пляну, на заўтрашні дзень.

Адказнасьць за работу брыгады, зацікаўленасьць ёю, любоў яе, як асабліва блізкай роднай справы, няўхільна прыводзяць да таго, каб адчуць адказнасьць і за калгас, за вытворчасьць, хварэць яе хваробамі і патрэбамі.

Праходзяць людзі — арганізатары, ініцыятары ўдарнікі. А колькі іх яшчэ засталося па-запаказам. Іх у калгасе „Колас“ дзесяткі, і на іх у сваёй рабоце абапіраюцца сельпартячэйка і праўленьне.

**Рыгор Кутылоўскі.**

**Павышэньне ўраджайнасьці—цэнтральная задача ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі ў даны момант. Калгасьнікі і калгасьніцы, усе сілы на барацьбу за высокі ўраджай!**

# Рашэньні пленуму ЦК—у масы

**Разьвіцьцё савецкага гандлю—далейшае ўмацаваньне сацыялізму.**

У пачатку кастрычніка скончыўся пленум ЦК УсеКП(б), які прыняў рэзалюцыі па вузлавых пытаньнях, вырашэньне якіх азначае далейшы рух у нашай рабоце па пабудове сацыялістычнага грамадзтва. Гэта—савецкі гандаль, лёгкая прамысловасьць, чорная мэталюргія.

Вялізарнае значэньне мае рашэньне пленуму аб вырабе тавараў шырокага спажываньня. Задача—узмацніць снабжэньне краіны прадметамі шырокага ўжытку—пастаўлена тав. Сталіным у тым-жа дакладзе XVI зьезду. Ен казаў:

„Дагэтуль мы эканомілі на ўсім, у тым ліку і па лёгкай індустрыі, для таго, каб аднавіць цяжкую індустрыю... Цяпер мы можам павярнуцца да лёгкай індустрыі і пасунуць яе наперад паскораным тэмпам“.

Значэньне гэтай задачы для разьвіцьця народнай гаспадаркі далёка яшчэ не ўсьвядомлена нашымі гаспадарчымі работнікамі. Шмат з іх мяркуюць, што раз мы дабіліся рашаючых посьпехаў у справе разьвіцьця цяжкай прамысловасьці, то астатняе „пойдзе само собой“. Гэта—глыбокае заблуджэньне ці апартуністычнае ўвільвальне ад вырашэньня чарговых задач. Іменна стварэньне ў выглядзе цяжкай індустрыі ўласнай тэхнічнай базы для завяршэньня рэканструкцыі ўсёй гаспадаркі, адзначанае 17 партыйнай канфэрэнцыяй, дае нам магчымасьць і абавязвае нас з усёй бальшавіцкай энэргіяй узяцца за разгортваньне лёгкай прамысловасьці.

На аснове створанай вытворчай змычкі з вёскай неабходна пашырыць і паглыбіць змычку ў галіне таваразвароту праз усямернае разгортваньне савецкага гандлю. А гэтага нельга зрабіць, не разгарнуўшы ўсе нашы магчымасьці па выраба прадметаў шырокага ўжытку, не разгарнуўшы шырачайшым чынам лёгкай і харчовай прамысловасьці, вырабу шырпатрэбу ў прадпрыемствах цяжкай прамысловасьці, вытворчасьці прамысловай каапэрацыі.

Неразуменьне, недаацэнка вялізарнага значэньня ўзмоцненага вырабу шырспажыву ў сучасны момант сказваецца ў значным недавыкананьні вытворчых праграм у гэтай галіне за прайшоўшую частку году як па Наркамлёгпраму, так і па адпаведных цэхах Наркамцяжпраму, у высокім процанце браку, у нізкай якасьці вырабаў, у абмежаванасьці і аднатыпнасьці асартымэнту тавараў, у неадпаведнасьці яго патрэбнасьцям рынку, у асаблівасьці патрэбнасьцям вёскі.

Пленум і тут намеціў цэлы рад канкрэтных мерапрыемстваў, завастрыўшы ўвагу ўсёй партыі і савецкай грамадзкасьці на далейшым разгортваньні вытворчасьці шырспажыву і падкрэсьліўшы наяўнасьць умоў для поўнага і бязумоўнага выкананьня дырэктыў партыі ў гэтай галіне.

Разьвіцьцё савецкага гандлю зьяўляецца трэцім з тых вузлавых пунктаў, на якіх павінна быць сканцэнтравана зараз работа партыі і гаспадарчых органаў. У гэтай галіне на працягу 1932 году дасягнуты нямалыя посьпехі ў сэнсе росту гандлёвай сеткі, росту і паскарэньня таваразвароту. Але гэтыя посьпехі, асабліва ў разьвіцьці калгаснага гандлю, пленум лічыць недастатковымі і ўказвае на цэлы рад нявыжытых яшчэ буйнейшых недахопаў у рабоце савецкага гандлёвага апарату.

Большасьць гандлёвых арганізацый усё яшчэ застаецца складзкімі пунктамі, мэханічна разьмяркоўваючымі тавары, без дастатковага ўліку асаблівасьцяй асобных раёнаў, без сваячасовага завозу тавараў, пры затаварваньні ў адных месцах і пры няхваце гэтых тавараў у другіх, нярэдка з ужываньнем прымусовага асартымэнту. Адзначаецца паслабленьне дысцыпліны ў правядзеньні дзяржаўнай палітыкі цэн і факты прамога скажэньня гэтай палітыкі. Адзначаецца самаўласнае браніяваньне і разьмеркаваньне тавараў па сьпісках паміж рознымі групамі спажыўцоў па прамому ўказаньню мясцовых савецкіх і партыйных органаў, замест продажу гэтых тавараў у магазынах. Растуць выдаткі звароту, выпадкі хішчэньняў і злоўжываньняў у гандлёвым апараце і г. д.

Гэтыя недахопы, перашкаджаючыя хутчэйшаму разгортваньню савецкага таваразвароту, тлумачацца, з аднаго боку, „лявацкай“ недаацэнкай значэньня савецкага гандлю, а з другога боку—наяўнасьцю ў гандлёвым апараце праваапартуністычных, буржуазна-нэпманскіх элемэнтаў, тлумачачых савецкі гандаль як „разьвязваньне рыначнай стыхіі“, дапушчэньне прыватніка і г. д.

Сярод членаў партыі і ў асобных партыйных, камсамольскіх арганізацый сустракаюцца адносіны да гандлёвай работы, як да „другараднай“, менш важнай, чым работа ў другіх галінах. Зразумела, што такія адносіны зусім ня спрыяюць палепшаньню нашай гандлёвай справы і зусім недапусьцімы для членаў партыі.

**„Пленум абавязвае ўсе партыйныя, гаспадарчыя і прафэсыянальныя арганізацыі даць бязьлітасны адпор „лявацкай“ антыленінскай недаацэнцы значэньня савецкага гандлю, з аднаго боку, і лібэральна-буржуазнаму тлумачэньню задач разгортваньня савецкага гандлю з боку правых апартуністаў—з другога“.**

Побач з указаньнем канкрэтных мер па далейшым разьвіцьці таваразвароту, пленум патрабуе ад усіх мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый, каб яны ўсямерна садзейнічалі росту калгаснага гандлю і дабіваліся зьніжэньня непамерна высокіх цэн на калгасным рынку, шляхам рашучай барацьбы з перакупшчыкамі і спэкулянтамі і шляхам адхіленьня з рынку асобных дзяржаўных і каапэрацыйных загатоўшчыкаў, падвышаючых цэны.

Пастановы пленуму зьяўляюцца новым, важнейшым зьвяном у ланцугу рашэньняў партыі і савецкай улады, накіраваных на палепшаньне і разгортваньне нашай практычнай работы па сацыялістычнаму будаўніцтву. Гэтыя пастановы павінна прапрацаваць кожная партыйная і камсамольская ячэйка. Іх павінен добра ведаць партыйны і савецкі актыў кожнай арганізацыі, каб шырока папулярызаваць іх у масах.

(*„Соц. Земл.“*).

Сьцяпан Сямашка

# Сакратар

*(Урывак з аповесьці „Есяноўцы")*

Пакуль Піліп Кухта расказаў свайму намесьніку, што робіць на канцэлярыі калгасу, ды потым, па дарозе, зайшоў на папар, дзе аралі калгасьнікі, пагаварыў крыху з брыгадзірам,—дык было блізка каля паўдня. А прышоў у саўгас якраз у самы поўдзень. Кухта чуў нават, калі праходзіў каля канторы саўгасу, як на іхных насьценных прабіла дванаццаць гадзін.

— Позна прыходзіш,—заўважыў Піліпу сакратар парт'ячэйкі Цімашэнка, як толькі той пераступіў парог у хату-чытальню.

Піліп ні слова не адказаў на гэтую заўвагу. Паздароўкаўся з усімі і, усёўшыся ў крэсла, пачаў гаворку аб другім.

— Шанцуе вашаму саўгаснаму сену, пагода добрая...

Нешта яшчэ хацеў сказаць адносна пагоды, але ў гэты момант Цімашэнка зноў зазначыў:

— Чакаем цябе, таварыш Кухта, блізка каля гадзіны.

— Ня можа быць,—не згадзіўся Піліп.—Я-ж, здаецца, скора... Гэта вам так здалося. Зьвесна, як вы тут на месцы, дык вам і здалося, што доўга... А я табе скажу тое, таварыш Цімашэнка, што ўдзень, ды яшчэ такой пагодай—ня варта рабіць пасяджэньні. Лепш увечары, бо ўдзень—адрыў ад працы.

Цімашэнка так быў аддаўшыся прагляду нейкіх папер, што ня ўчуў добра апошніх слоў Піліпа. Перапытаў:

— Што ты наконт пасяджэньняў?..

— Ды тое, што трэба ўвечары засядаць, каб не адрываць ад працы.

— А-а, гэта праўда. Ну, мы дужа не зацягнем, усяго некалькі хвілін... Я нікога, акрамя членаў бюро, і не выклікаў. Па тых пытаньнях, што па пляну, дык можна-б было і ня склікаць бюро, але ёсьць справа, што нельга адкласьці і да вечару.

Выцяг з папкі невялічкую, сьпісаную паперку. Падкрэсьліў у ёй алоўкам некаторыя словы і гаварыў далей.

— Мы скора... Прысуньцеся з крэсламі бліжэй да стала, пачнем... Ты, таварыш Багуцька, бяры ручку і паперу, будзеш весьці пратакол за тэхсакратара. Яшку не захацеў і ўжо здымаць з касілкі, абыйдземся... На абвестцы дню ў нас будзе ўсяго толькі два пытаньні: аб прапрацоўцы сярод калгасьнікаў і рабочых саўгасаў пастаноў ЦК аб збожжазагатоўках і мясазагатоўках і другое пытаньне—наконт сакратара парт'ячэйкі...

— Як гэта наконт сакратара?!—зьдзівіўся Піліп.

— Ен едзе на курсы,—адказаў хтосьці за Цімашэнку.

— Атрымаў сёньня з райкому тэлеграму, што вылучан на курсы і заўтра павінен быць там... Сёньня ў чатыры трыццаць вечару трэба ад'яжджаць.

— І надоўга—цікавіўся Піліп.

— Не, усяго толькі на адзін месяц. Дык от... Трэба-ж каму-небудзь з вас перадаць на гэты час сакратарства.

— Лагуцьку,—адразу прапанаваў Піліп.

— Чаму не табе, ці Эрдману, альбо Шаганіку?—адазваўся Лагуцька.

— Чакайце таварышы,—абарваў Цімашэнка, — давайце ўжо спачатку вырашым першае пытаньне, больш важнае, а потым і гэта.

Усе сьціхлі, а Цімашэнка выцяг з груды папер дзьве газэтныя, падкрэсьленыя чырвоным алоўкам выразкі і гаварыў далей.

— Вы канечне, чыталі ў газэтах гэтыя пастановы ЦК...

— Ну, вядома, што чыталі,—адказалі ўсе.

— ...так, што, нам тут, на бюро ня варта шмат і гаварыць аб іх значэньні. Адно толькі—трэба гэтыя пастановы растлумачыць сярод калгасьнікаў і рабочых нашага саўгасу.

— Дык чаго там яшчэ... Склікаць агульныя сходы і зрабіць даклад,—прапанаваў Піліп.

— А не, гэтага мала. Ды бадай, што і ня варта на агульных сходах...

— А як?

— Трэба добра прапрацаваць. Па брыгадах трэба... У кожнай брыгадзе трэба растлумачыць гэтыя пастановы. Тут нельга падыходзіць з аднэй меркай да ўсіх брыгад.

Цімашэнка правёў чырвоным алоўкам паміж радкоў і без таго падкрэсьленыя ўжо месцы ў пастанове і даводзіў:

— Нельга, скажам, праводзіць адну і тую самую гутарку ў паляводчай брыгадзе і сярод сьвінароў.

— Чаму не?—незгаджаўся Піліп, —пастановы-ж адны і тыя.

— Адны і тыя, гэта праўда. І агульная задача скажам, твайго калгасу—гэта разводзіць і гадаваць сьвіней. Але, калі падыйсьці канкрэтна да кожнай брыгады, дык у кожнай з іх ёсьць свае задачы ў выкананьні гэтай агульнай задачы. Сьвінаводчая, скажам, брыгада павінна змагацца за лепшы догляд, за зьнішчэньне адыходу маладняка... паляводчай—за кармы для сьвіней, за ўраджай... Ды на сходзе і не прапрацуеш добра такія важныя пастановы. Я так гляджу на гэта...

— Правільна,—пацьвердзіў хтосьці.

— Давай свае прапановы,—дадаў другі.

— Прапанова кароткая. Правесьці, значыць, па брыгадах гутаркі ў часе перапынкаў і па вечарох.

А даручыць гэтую работу камунiстам i камсамольцам, што расстаўлены ў нас па брыгадах. От i ўсё. Ага... Трэба адказнасьць ускласьцi на асобных членаў бюро за правядзеньне гэтых гутарак. Я думаю так, па саўгасу—на таварыша Лагуцьку, а па калгасу—Кухта будзе адказваць. Супроць такой прапановы будзе хто?

— Няма,—адказалi ўсе ў адзiн голас.

— Запiшы гэтае ў пратакол, таварыш Лагуцька.

На хвiлiну Цiмашэнка задумаўся. Нiбы капаўся ў думках знайсьцi што-небудзь больш практычнае для таго, каб лепш давесьцi пастановы партыi да шырокiх мас калгасьнiкаў. За хвiлiну праляцела ў яго галаве ўсё, што перагаварылi зараз i запiсалi ў пратакол. Напамяць ведаў запiсанае ў пратакол. Засела яно моцна ў мазгi, уелася, так, што Цiмашэнка не забудзе датуль, аж пакуль i ня будзе зроблена ўсё гэтае. Такi ўжо ў яго характар, што калi пастановяць аб чым небудзь на ячэйцы, дык пакуль i ня выканаюць гэтую пастанову ўвесь час носiць ён яе ў галаве. Хто яго ведае, мабыць таму ён i ня любiць пiсаць шмат пастаноў?

— Ага, ледзь не забыўся,—вырвалася раптам у Цiмашэнкi пасьля кароткай маўчанкi,—трэба запiсаць, што растлумачэньне гэтае правесьцi на працягу... Ну, якi мы возьмем тэрмiн?

— Тыднёвы,—прапанаваў хтосьцi.

— Не, досыць будзе пяцi дзён. Супроць няма. Дапiшы, таварыш Лагуцька, што ў пяцiдзённы тэрмiн прапрацаваць i потым заслухаць на бюро вынiках. Ну от i ўсё з гэтым пытаньнем. А цяперака адносна сакратара...

Не далi дагаварыць Цiмашэнку. Адразу пасыпалiся прапановы.

— Лагуцьку.

— Кухту.

— Лагуцьку.

— Галасую... Хто за Лагуцьку? Усе. Ну от, ты, значыць, застаешся. Плян работы ячэйкi тут...

Цiмашэнка раскрыў папку i паказаў надрукаваны на машынцы аркуш паперы.

— ...тут усё знойдзеш. На чарговым бюро заслухаеце даклад Есяноўскай фэрмы аб выкананьнi вытворчага пляну, а на агульным сходзе ячэйкi... Ды тут, у пляне ўсё знойдзеш. Сход адчыненым рабiце, у Есяноўцы.

— Добра,—адказаў Лагуцька, прымаючы ад Цiмашэнкi папку з ячэйковымi паперамi.

---

Цiмашэнка праводзiў Пiлiпа аж да калгаснага поля. I ня думаў iсьцi (трэба-ж было зьбiрацца ў дарогу), але, разыходзячыся з пасяджэньня бюро, як пачалi гаворку, як загаварылiся, дык няпрыкметна неяк i зайшоў так далёка,

Цiмашэнка цiкавiўся становiшчам на сьвiнагадоўчай фэрме. Распытваў у Пiлiпа:

— Ну, як у цябе з адыходам маладнякам? Цi iдзе на зьмяншэньне?..

— Як табе i сказаць... Хвалiцца дужа няма чым, але i страшнага нiчога... От зараз скажу табе точна.

I Пiлiп дастаў з кiшэнi абшарпаны свой блёкноцiк, з якога ён мог-бы кожную хвiлiну даць цэлы малюнак аб становiшчы свайго калгасу. Пералiстаў некалькi лiсьцiкаў i адказаў:

— Памяншэньне ёсьць супроць мiнулага месяца...

— Чаго, парасят, цi адыходу?—не ўцярпеў Цiмашэнка.

— Ну што ты!.. Адыход, кажу, паменшыўся. Супроць мiнулага месяца, паменшыўся на чатыры процанты.

— Мала.

— Я-ж кажу, што хвалiцца дужа няма чым.

— Чатыры процанты—мала. А калi прыняць пад увагу, што ў тым месяцы менш было апаросаў, дык гэты процант зусiм малы. Чатыры процанты... Усяго на чатыры процанты!

— Ну што-ж...

За гэтым „ну што-ж“ Пiлiп хацеў сказаць штосьцi для таго, каб апраўдаць такое малое зьнiжэньне проценту адыходу маладняка, але Цiмашэнка зноў абарваў яго сваёй гаворкай.

— Гэта значыць, калi ў тым месяцы было пятнаццаць процантаў адыходу, дык у гэтым—адзiнаццаць. Гэта ўсёроўна, што на тым самым месцы. Трэба-ж такi, адзiнаццаць процантаў!..

Лiчба гэтая да болю наскрозь прабiла Цiмашэнку мазгi. Страшнай здалася, такой страшнай, што аж трывога агарнула чалавека. На цэлы момант задумаўся. Нiбы шукаў выйсьце для сьвiнагадоўчай фэрмы.

Пiлiп глянуў у задумёнвы твар сакратара ячэйкi, пералiстаў бяз нiякай патрэбы некалькi лiсьцiкаў у блёк-ноце i нясьмелым, нейкiм дрыжачым голасам загаварыў:

— А чорт яго ведае, якiя тут прымаць меры... Процант вялiкi...

— А ў пастанове ячэйкi памятаеш, што запiсана па твайму дакладу?—запытаў Цiмашэнка.

Пiлiп маўчаў.

— Да першага кастрычнiка давесьцi адыход маладняка да нуля. От што пастанавiлi мы тады на ячэйцы. А хiба-ж мы выканаем гэтую пастанову, калi будзем iсьцi наперад такiмi крокамi. Не, ня выканаем. А ўмовы ўсё ёсьць, каб зьнiшчыць на фэрме страты. Сьвiнарнiк во гэткi пабудавалi, людзей падабралi...

— Ды людзей-жа не хапае яшчэ,—адазваўся Пiлiп.

---

**Усе творчыя сiлы рабочых, калгасьнiкаў i ўсiх працоўных—на выкананьне задач пастаўленых партыяй!**

— Як не хапае?

— Людзі-ж тыя самыя, што былі і тады.

— І Адама Бусьлейку не паставілі яшчэ на фэрму?

— Ну, як ты паставіш, калі ў паляводчай брыгадзе мала каго застаецца такіх, як ён. Ударнік, прыкладны камсамолец... За ім ідзе ўся брыгада.

Слухаючы гэтыя довады Цімашэнка пачаў нэрвавацца.

— Што ты мне гаворыш, таварыш Кухта? У цябе-ж там, у тэй брыгадзе застаецца два камуністы і тры камсамольцы. Нельга-ж так!.. Тады дагаварыліся на ячэйцы, пастанавілі, што фэрму трэба ўмацаваць партыйнымі і камсамольскімі сіламі, а ён—во што... Трэба зараз-жа перакінуць Бусьлейку з паляводчай брыгады—на фэрму, у сьвінарнік, даглядаць сьвіней. Што гэта за работа!

Потым асьцепяніўшыся, спакойным ужо голасам даводзіў Піліпу:

— Ты-ж сам, братка, ведаеш, што для нашага калгасу галоўнае—сьвіньні. А раз галоўна гэта, дык і ўвагі мы павінны больш аддаць сюды. Інакш мы ня выканаем тыя пляны, што самі-ж намецілі.

— Ну, гэта праўда,—згадзіўся Піліп.

— Усе сілы трэба пакласьці на барацьбу са стратамі на фэрме. На гэтым трэба завастрыць увагу ўсіх калгасьнікаў і ў час прапрацоўкі пастаноў ЦК.

...Сонца павярнула з паўдня, але моц яшчэ ня страціла. Раскідала залатыя косы праменьняў у чорную ральлю папару і зялёна-аксамітныя абрусы лугоў, упівалася праз кужэльныя кашулі ў людзкое цела. Жытнёвае поле ціха шапталася важкімі, крыху пажаўцеўшымі каласамі. Каласы нагіналіся да самай зямлі і здавалася, што поле рушыцца разам з подыхам ціхага, цёплага ветрыка. Усё трапяталася на сонцы і зацягвалася танюсенькай, ледзь прыкметнай павуцінай. Увысі бясконца разьліваўся звон жаўранка, а каля самай зямлі мітусіліся ластаўкі-шчабятухі, ловячы дакучлівых мошак.

Роем віліся ля коняй авадні і мухі.

Пахла ў папары гноем і сьвежай ральлёй.

Цімашэнка глянуў угору, плюскаючы вачыма, потым дастаўшы з кішэні гадзіньнік—прамовіў:

— Уга, колькі ўжо часу!.. Трэбаісьці зьбірацца, ды ехаць на станцыю.

Кастрычнік, 1932 г

# На дадзенай Кастрычнікам зямлі

## пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі працоўныя СССР усіх нацыянальнасьцяй будуюць новае жыцьцё

**Толькі камуністычная партыя правільна вырашыла нацыянальнае пытаньне**



**Тав. Ерэнбург З.**—камсамолец, ударнік з яўрэйскага нацыянальнага калгасу „Соцвег“, Парыцкага раёну.

Узорнаю сваёй працай на калгаснай вытворчасьці т. Ерэнбург падае прыклад усёй калгаснай моладзі, як трэба змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгаса.

Тав. Ерэнбург некалькі раз прэміяваны.



**Тав. Су-Дзі-Дзі**—ударнік кітайскага нацыянальнага калгасу, Віцебскага раёну.



**Тав. Герман Маня** — камсамолка-ўдарніца, працуе даяркай у саўгасе „Цішаўка“, Пухавіцкага раёну.

Сярод саўгаснай камсамольскай арганізацыі Цішаўкі падае лепшыя прыклады камсамольцам, зьяўляецца тав. Герман. Яна прэміявана за ўдарную работу на МТФ.

# УЛАСНАСЬЦЬ

*(Нарыс)*

### Уступ у жыцьцё

Звычайнае, няпрыкметнае, багатае чарадой пройдзеных год, цяжкіх—вагай непаўторнай работы,—скупых—вялікай чалавечай радасьцю,—усё глухое, як глухой была бацькаўшчына Сьцяпана Сьвінкі,—усё нязьмерная чалавечая трываласьць і ненавісьць,—жыцьцё.

... Была зямля ў чорным росквіце меж. Было засмужжа ў срэбным росквіце садоў—ціхая завадзь кулацкага засьценку, што раскінуў абапал шырокай вуліцы шарэнгі прыземістых хат надзейнага, векавога цёсу.

У 1892 годзе, сюды, у глуш ускраіны дрымотных пушч, і шызых балот Палесься прышла з-пад Бабруйску пяцёрка Шуневічаў. Яна прынесла з-сабой неад'емную смагу росту першых кулакоў—накапіцеляў, далёка бачыўшых на зямлі.

Яна пусьцела, гэта зямля княгіні Гогенлоэ, у руках баязьлівай польскай шляхты, зграі дробных арандатараў з худымі кішэнямі і гонарам старадаўніх вяльмож. Высокая пані разьмяняла някроеную магутнасьць сваіх уладаньняў на магутнасьць залатой дробязі кулацкіх кішэняў, што заваёвалі зямлю.

Валока межавала тутэйшыя прасторы цаліны і лясоў між Шуневічамі, Статкевічам, Петраком Корбутам, узводзіўшымі на вясёлым узгорку буйную кладзь багатых хат, сьвірнаў, такоў, хлявоў.

... Сьцяпан Сьвінка батракаваў на гэтай зямлі.

Тут была яго бацькаўшчына. Ён бачыў шмат гаспадароў. Аднак зноў прышлыя былі самымі лютымі з усіх. Яны заваёвалі права гаспадарыць уласнымі рукамі, заўжды гатовымі да драпежнай хваткі. Літасьць абярталася ва ўласную гібель. Яны былі створаны гэтым законам і пільна абаранялі яго высокую існасьць.

Так, гаспадары зьмяніліся. Сьцяпан прышоў у Засмужжа, да Петрака Корбута. Ён паказаў яму свае рукі. Іх, гэтыя рукі, ён прадаў за жабрацкі кошт батрацкай няволі, што пачыналася прадранішнім золакам і канчалася апошнімі праблісками душнага, балотнага захаду кожнага дня.

У пяты год, што дакаціўся сюды толькі рэхам грому, які чысьціў дарогу гадом вялікай рэвалюцыі, пасівелы Сьвінка пас чароды чужой жывёлы.

Яму здавалася, што бур'ян меж, захапіўшых глотку яго бацькаўшчыны туга зьвітай пятлёй кулацкай кабалы—непарыўны. Ён знаў толькі адну літару з альфабэту рэвалюцыі—вялікую літару клясавай ненавісьці.

І поруч ён марыў аб зямлі. У ёй батрак бачыў абрыс вялікага свайго жыцьця. Ён брыў у поцемках крокамі тысяч, мільёнаў, што блыталіся чужымі дарогамі ў шуканьні шляху да сонечнага, бяз краю налітага маладосьцю дню. Кавалак зямлі—сваё!

Зямлю дала рэвалюцыя. Рэвалюцыя адчыніла Сьцяпану Сьвінку дзьверы ў другую маладосьць.

... Засмужжа стаяла між раздарожжамі рэвалюцыі. Гаспадары Засмужжа чакалі рашаючых дзён і—сьцяўшы зубы выводзілі з хлявоў рэквізаваную жывёлу, грэблі са сьвірнаў дабротнае збожжа. Яны рыхтавалі абрэзы і ў надзеі на моц польскіх легіёнаў—прыталіліся з прыгатаваным сьвінцом.

Сьвінец прышлося хаваць. І як сьвінец, гаспадары Засмужжа хавалі зямлю—якую ня ўзяла ў іх рэвалюцыя. Яны марылі зноў узьняць на ёй былую моц. Яны рабілі стаўку на мяжу, нараджаўшую бясьсільле дробнага двара другой паловы Засмужжа,—ня ведаючы, што гэта апошняя стаўка клясы, асуджанай на гібель воляй клясы будаўнікоў, воляй—ня ведаючай меж. Яны лічылі перамогі. Сьцяпан Сьвінка прышоў да Петрака Корбута. Рахунак ненавісьці застаўся тым-жа.

Шарэнга год выйшла ў расход.

Рэвалюцыя павяла наступ на межы.

Кляса будаўнікоў узяла ненавісьць Сьцяпана. Яна расьсекла вузел супярэчнасьцяй гэтай ненавісьці наяўнасьцю новага шляху—ад галечы жабрацкай уласнасьці двара—да грамадзкай уласнасьці, да сонечнай будучыні зямлі.

Кляса будаўнікоў падвяла рахунак гэтай ненавісьці і—памножаную на ненавісьць тысяч, мільёнаў, раней аблытаных уладай меж, павяла нябывалай антыкулацкай лавінай на Засмужжа. Гаспадары Засмужжа прайгралі стаўку на мяжу.

Махорачным угарам, цяжкай паводкай нягнуткіх новых слоў (так пачынаецца чалавечы ўступ у жыцьцё)—пайшлі частыя сходы восені дваццаць дзевятага.

Засмужжа. Дзьве палавіны. Дваццаць чатыры галасы—і высушаная гадамі, сонцам, непаўторнай работай рука Сьцяпана Сьвінкі з імі—за калгас. Драпежныя постаці па кутах. Семнаццаць асуджаных гаспадароў Засмужжа. Зноў падрыхтаваная сьвінцовая ненавісьць у рулях абрэзаў.

Грамадзкая ўласьнасьць у Засмужжы—уласнасьць дваццаці чатырох. Калгас „Асьвета".

### Месца Андрэя Корбута

Андрэй Корбут прышоў у калгас зімой трыццатага.

Гаспадар двара—ён пражыў наім паўвека. Рубеж двара, уклад яго рэчаў межавалі абсяг турбот Андрэя Корбута.

Паўвека—вялічэзны тэрмін. Удумлівы спакойны Корбут аддаў зямлі ўсю сваю руплівасьць гаспадара, зыркасьць вачэй і нястомную ўпартасьць рук. Адзін,—коштам усяго жыцьця, ён вынёс на ёй вялізарную вывучку майстра, важатага лёсу зямлі.

Дні будняў на загонах чаргаваліся ў Андрэя Корбута са днямі дарог па чужых гарадох і сёлах, у нябачаным вадазвароце чалавечых жыцьцяў. Яго кідала ў шторм клясавых схватак, дзе кожны дзень ён бачыў больш чым за годы свайго жыцьця, дзесьці, на глухой ускраіне чалавечых шляхоў у зьнітаваньне клясавых воль.

Ён прышоў зноў у Засмужжа. Ён бачыў як сутычка двух лягераў рэвалюцыі ўбірае ў сябе Засмужжа, парадак якога для іншых быў векавечным, як сонца.

Эпоха ўварвалася сюды наступам на межы. Яна вывернула перад самім Андрэем Корбутам яго знанку раба зямлі простым ударам: падлікам выгады калгаснага двара. Корбут убачыў у калгасе будучыню зямлі, спакойна падлічыў яе вартасьць і адным з першых у Засмужжы аддаў калгасу сваё майстэрства.

Рашэньне Корбута паставіла яго па гэты бок мяжы: на другім стаялі ворагі—старыя гаспадары Засмужжа, якому прыходзіў канец. Гэта было тое зьнітаваньне воль, якое ўжо бачыў Андрэй Корбут.

Месца было знойдзена.

У вясну трыццатага году Андрэй Корбут прыняў на сябе адказнасьць палявода: калгаснага майстра зямлі. Ён зырка сачыў за кожнай баразной пахаці, кожным узмахам сеяўшых рук. Чалавек будняў, звычны для ўсіх аблíччам, скупасьцю слоў, учынкамі, рашэньнямі—Корбут аддаваў зямлі калгасу—усё набытае ім за жыцьцё.

Ён хадзіў па палёх з Удавенкай, старшынёй калгасу, прысланым рабочымі Гомелю і гаварыў яму проста, буднічна аб тым, што і дзе сеяць. Удавенка ўважліва слухаў кароткія заўвагі Корбута, парывіста крочыў. Чалавек мэталю—рэзкі, вуглаваты ў паваротах, з тварам,—у якім здавалася назаўсёды засеў чорны пыл чыгуну,—з новай, у якой Андрэй Корбут больш адчуваў, чымся разумеў упартую, нязломную сілу наступу, ён,—ні-ніколі не працаваўшы на зямлі, бачыў да краю яе новыя шляхі.

Уласнасьць 24-х ён жадаў абярнуць ва ўласнасьць соцен. Ён бачыў тут, у глушы—толькі абуджанай,—стромкі парадак цэхаў, буднічнае зьнітаваньне чалавечых воль у адзіным, як лінія электратоку, напружаньні. Ён гаварыў аб гэтым жорстка, нязломна і Корбут расьціў у сабе спакойную ўпэўненасьць у справе, да якой прышоў на парозе другога паўстагодзьдзя жыцьця.

### Будні

Увосень 1930 году на парозе аднагадовага юбілею калгасу „Беларуская вёска" пісала аб „Асьвеце". На шэрай газэтнай старонцы, аздобленай шарэнгай здымкаў стаялі высокай парасьлю літары:

„Паслухайце, што кажа Сьцяпан Сьвінка.

Сьцяпан Сьвінка з паласы газэты гаварыў аб грамадзкай уласнасьці ў Засмужжы. Яго здымак быў тут, уверсе. Пад кароткім брылем старой фуражкі—твар з шырока адчыненымі ў напружаным бляску вачыма, у сівой шчаціне валос.

— Цяпер я калгасьнік, я гаспадар і сваімі рукамі будую новае жыцьцё.

Гаспадар—ён пералічаў сваю і свайго калгасу маёмасьць.

Ён гаварыў аб людзях—тых сямі, што першай ластаўкай будучага бурнага прыліву прышлі ў „Асьвету". Ён гаварыў аб будучыні.

Тагачасная будучыня—рэчаісьнасьць. Увесну 1931 г. ў калгас прышоў Вобчын і Рачэнь. Ад уласнасьці дваццаці чатырох „Асьвета" прышла да ўласнасьці 250.

Дарога трох год—дарога будняў. На ўзгорку Засмужжа высіцца над вёскай пабудова вялікага сьвінарніка, кароўніка, канюшні. Аблічча засьценку зьмяняецца. Парадак тонкай істужкі двароў уздоўж вуліцы бязьлітасна разбуран: Засмужжа расьце ўшыркі навіной стройных пабудоў. У баку ад Вобчына зьзяе сонечным пераплётам шкляной сьценкі птушкаводная фэрма.

Іх творыць калектыўная воля людзей калгасу—тое зьнітаваньне чалавечых воль, аб якім гаварыў, за якое змагаўся Максім Удавенка.

Для іх, фармуючых аблічча будучыні немагчыма разьмежаваньне на ўласнасьць адзінак. Бальшавіцкія будні ўзялі ў высокі пераплаў двары дробнай уласнасьці і гэта—матар'ял першай плаўкі. Рэчы кажуць за сябе.

Пераплаў двара—пераплаў сьвядомасьці чалавека. Абсяг забот двара—разамкнуты. Сьцяпан Сьвінка гаворыць аб уласнасьці дзесяткаў. Андрэй Корбут адказвае за гэту ўласнасьць буднямі напружанай работы майстра. Адзін—пастух калгасу, другі—палявод.

### Вораг

Увосень мінулага году ў „Асьвету" ўліўся 6-ты пасёлак Рачэні. На чале шасьці гаспадарак у калгас прышоў Конан Іокша, які стаў брыгадзірам.

У вясну пасёлак выйшаў з калгасу. З шасьці не засталося ніводнага. Апошнім выйшаў Конан Іокша. Ён трымаўся да канца і маўчаў.

У жніўні з Іокшай здарылася няпрыемнасьць. Яго злавілі на крадзяжы калгаснага жыта.

Іокша прагадаў. Цімох Кукраш, працаваўшы недзе па-за Рачэньню, прыбег да палявода аддзяленьня—Якімовіча і ўсхвалявана расказаў усё. Ён зьвез калгасу ўзятае жонкай жыта.

Кукраш расказаў як „вучоны" Конан Іокша калісьці скончыўшы слуцкую гімназію, запраўляў глухім пасёлкам і, падупадаючы пад цьвёрдае заданьне, прывёў пасёлак у калгас, з тым, каб потым кружнай дарогай кулацкай хлусьні—вывесьці ўсіх.

„Высока-адукаваны" драпежнік пралічыўся. Справа перайшла ў сьледчыя органы.

Так вырадкі недабітай клясы кулацтва ідуць ад „высокіх" спраў хлебнага сабатажу да подлай справы начы.

Аднак, на ахове калгаснай начы стаіць закон 7-га жніўня, бязьлітасны закон пралетарскай дыктатуры аб ахове грамадзкай маёмасьці.

Кацельны цэх „Пралетара" даў Максіму Удавенку, кандыдату КП(б)Б, пуцёўку на калгасны фронт у лік 25 тысяч.

Цэх прыняў яго 28-ым па чарзе ў 1924 годзе,—кляпаць катлы для індустрыі,—уласнасьці краіны, што падымала з іржавага сну навальнічых год цэхі мэталю, нафты, вугля.

Шлях Максіма Удавенкі просты. Ён добра біўся за свой завод, за справу цэху. Цэх рос. У 1930 г., аддаючы Удавенку пуцёўку дваццаціпяцітысячніка цэх галасаваў за яго трыма сотнямі рук.

Кірунак пуцёўкі прывёў у „Асьвету".

Кірунак пуцёўкі—3 гады будняў—высокі накал дзён, беспаваротна вызначыўшых мейсца Андрэя Корбута, Сьцяпана Сьвінкі, дзесяткаў, соцень другіх,—тут на глухой палескай ускраіне,—калгас.

Работа. Яе вышэйшая мера гучыць у вуснах Андрэя Корбута слоўмі:

— Працаваць як на сябе. Ахоўваць як сваё.

Цяжка знаходзяцца новыя словы. Калі па новаму гучаць старыя, яны новы. Яны нясуць у сабе той-жа сэнс, які нясла і нясе жорсткая пільнасьць людзей „Пралетара"—пільнасьць аховы ўзятага, Гэта рост новага чалавека, для якога словы Андрэя Корбута—рахунак будучыні і перамога Удавенкі—кацельшчыка з „Пралетара" і яго партыі.

Гэта прысуд для Конана Іокшы—аднаго з апошніх клясы драпежнікаў зямлі.

**Міх. Белазор.**

*К-с „Асьвета"—Любань.*

# Выкананьне пляну загатовак—лепшы падарунак 15-годзьдзю Кастрычніка

## У АДКАЗ НА АДОЗВУ ЛЕНІНГРАДЗКІХ РАБОЧЫХ

На адозву ленінградзкіх рабочых калгасы і саўгасы БССР адказваюць канкрэтнымі, баявымі справамі. У калгасах і саўгасах праведзены спэцыяльныя сходы, прысьвечаныя адозьве. На сходах калгасьнікі бралі канкрэтныя самаабавязацельствы па выкананьні і перавыкананьні сваіх вытворчых плянаў.

Адозва дала вялікі зрух у выкананьні некаторымі раёнамі асеньняй сяўбы, зяблевага ворыва і ўборкі бульбы.

### Перадавікі асеньняй сяўбы

Барацьба за сваячасовае і поўнае скончэньне сяўбы зьяўляецца зараз галоўнай задачай калгаснай вытворчасьці. Там, дзе была шырока разгорнута масава-растлумачальная работа, вакол гэтага вучастку работы, калгасы выканалі і перавыканалі свае пляны.

У калгасах **Лёзьненскага** раёну па асеньняй сяўбе плян выканан поўнасьцю. У Сіроцінскім раёне, дзякуючы добрай падрыхтоўкі і растлумачальнай рабоце аб важнасьці сваячасовага выкананьня, плян асеньняй сяўбы выканан на 108 проц. Пры ўспашцы і сяўбе праводзілася вялікая барацьба за якасьць работы. Шырока было разгорнута ўдарніцтва і сацспаборніцтва.

Поплеч з Сіроцінскім раёнам ідуць Крупскі раён, дзе плян выканан на 103,6 проц., засеяна плошча ў 8.802 **га**, таксама Менскі і Тураўскі раёны. Па Менскім раёне плян выканан на 120 проц. Засеяна ачышчаным і гатунковым насеньнем 11.730 **га**; па Тураўскім раёне плян выканан на 105,3 проц., засеяна плошча ў 2.317 **га**.

Калгасы астатніх раёнаў БССР павінны ўзяць прыклад з калгасаў тых раёнаў, якія сваячасова выканалі і перавыканалі свае пляны па асеньняй сяўбе.



Тав. **Пашкоўская**—75-гадовая калгасьніца калгасу „Камінтэрн“, Лёзьнянскага раёну. Прэміравана за ўдарную работу па ўборцы лёну.

### Забясьпечыць сваячасовую і поўную ўборку бульбы

Ня менш важнейшай задачай калгасаў і саўгасаў у справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і ўзмацненьня сацыялістычнай вытворчасьці, зьяўляецца сваячасовая і поўная ўборка бульбы. На гэты адказны вучастак работы калгасы



Куры белай пароды калгаснай птушкаводнай фэрмы.

і саўгасы павінны мабілізаваць усе сілы.

Уборка бульбы ў радзе раёнаў ужо поўнасьцю скончана. Гэта тлумачыцца тым, што калгасы і саўгасы зразумелі важнасьць гэтае работы, сваячасова падрыхтаваліся да яе, мабілізавалі ўсе сілы для поўнага і сваячасовага скончэньня ўборкі.

Калгасы і саўгасы Брагінскага, Жыткавіцкага і Пухавіцкага раёнаў яшчэ 5 кастрычніка поўнасьцю скончылі ўборку бульбы.

У Брагінскім раёне выкапана 2.868 **га** бульбы. Зараз праводзіцца масавая здача (продаж) дзяржаве калгасамі, саўгасамі, а таксама і аднаасобнікамі таварных лішкаў. Калгасы наладжваюць чырвоныя абозы ў падарунак 15-годзьдзю Кастрычнікавай рэвалюцыі, а таксама ў знак выкананьня сваіх сацыялістычных самаабавязацельстваў перад рабочымі гораду Леніна.

Не адстаюць са здачай таварных лішкаў і астатнія калгасы і саўгасы тых раёнаў, дзе скончана ўборка бульбы. Некаторыя калгасы Жыткавіцкага і Пухавіцкага раёнаў перавыканаўшы свае пляны па бульбазагатоўках, вылучаюць спэцыяльныя фонды для вывазу на калгасны рынак бульбы.

Лепшыя гатункі бульбы адбіраюцца і ссыпаюцца ў бурты для захаваньня на насеньне.

Сваячасовае і поўнае скончэньне ўборкі бульбы забясьпечыць поўнае выкананьне і перавыкананьне плянаў здачы дзяржаве бульбы, а гэта лепшы падарунак Кастрычнікавай рэвалюцыі. **К. Г—ч.**

# Аб мэтавых укладах калгасьнікаў *)

Да гэтага часу яшчэ шмат у якіх калгасах не разумеюць якім чынам зьбіраюцца мэтавыя ўклады калгасьнікаў у калгас, на якія патрэбы і як яны скарыстоўваюцца. І ня толькі ў калгасах. Нават некаторыя з раённых работнікаў ня маюць точнага ўяўленьня аб мэтавых укладах. З прычыны гэтага мы маем цэлы рад фактаў грубага парушэньня прынцыпаў аб мэтавых укладах, блытаніну ў гэтым пытаньні.

Трэба рашучым чынам пакончыць з такім становішчам, калі мэтавыя ўклады зьбіраюцца, як папала і на якія папала патрэбы. Аб правілах і парадку збору мэтавых укладаў калгасьнікаў у калгас павінны ведаць ня толькі ўсе раённыя і сельскія работнікі, але і шырокія масы калгасьнікаў.

### На якія патрэбы зьбіраюцца мэтавыя ўклады

Мэтавыя ўклады з калгасьнікаў у калгас зьбіраюцца выключна толькі на ажыцьцяўленьне вытворчых мерапрыемстваў калгасу. Напрыклад, калгасу трэба пабудаваць кароўнік, канюшню, ці яшчэ якую пабудову,—праўленьне калгасу праз агульны сход можа паставіць пытаньне аб зборы мэтавых укладаў. Альбо куплю жывёлы для калгасу на арганізацыю фэрмы і іншыя вытворчыя патрэбы калгасу.

### Ці абавязкова ва ўсіх калгасах зьбіраць мэтавыя ўклады?

Мэтавыя ўклады зьбіраюцца перш за ўсё ў тых калгасах, у якіх асабліва наглядаецца фінансавая напружанасьць, якая пагражае зрыву ажыцьцяўленьня намечаных тых, альбо іншых вытворчых мерапрыемстваў. У гэтых выпадках праўленьне калгасу можа і павінна зьвярнуцца за часовай дапамогай да сваіх калгасьнікаў.

Аднак, гэтыя мэтавыя ўклады зьбіраюцца і ў тых калгасах, у якіх асабліва і не адчуваецца фінансавай напружанасьці. Робіцца гэта для таго, каб, за рахунак мабілізацыі ўнутры калгасу грашовых сродкаў, калгас змог скараціць атрыманьне вытворчага крэдыту.

### Ці зьяўляюцца мэтавыя ўклады абавязковымі і ці зварачваюцца яны калгасьнікам?

Збор мэтавых укладаў можна робіць толькі на добраахвотных началах. Ніякага прымусу тут не павінна быць. Уклады бязумоўна зварочваюцца калгасьнікам. Тэрмін звароту мэтавых укладаў устанаўліваецца толькі агульным сходам калгасьнікаў.

### Як улічваюцца мэтавыя ўклады, дзе захоўваюцца і як яны скарыстоўваюцца?

Мэтавым укладам павінен быць заведзен дасканалы ўлік. Для гэтага заводзіцца спэцыяльная ведамасьць (сьпіс), у якой паказваецца прозьвішча і імя калгасьніка, унесеная ім сума і тэрмін звароту ўкладу.

Сабраныя мэтавыя ўклады праўленьне калгасу павінна трымаць на бягучым рахунку Дзяржбанку і выдаваць іх па свайму пагляду, але выключна на тыя вытворчыя мэты, на якія зьбіраліся мэтавыя ўклады.

### Якую атрымліваюць калгасьнікі выгаду ад мэтавых укладаў?

Асноўная выгада перш за ўсё зьяўляецца тая, што, дзякуючы аказаньню часовай дапамогі калгасьнікаў, калгас мае магчымасьць ажыцьцявіць намечаныя вытворчыя мерапрыемствы. А мы ведаем, што пашырэньне вытворчай дзейнасьці калгасу, арганізацыйна-гаспадарчае яго ўмацаваньне,—павялічвае прыбытак калгасу, паляпшае матар'яльна-бытавыя ўмовы саміх калгасьнікаў.

Акрамя гэтай агульнай выгады, калгасьнік кожны ў асобку атрымлівае асабіста прыбытак ад налічэньня на мэтавыя ўкладаньні адпаведных процантаў. Гэтыя проценты ўстанаўляюцца агульным сходам калгасьнікаў, але ня звыш існуючых процантаў у ашчадкасах па простых укладаў.

### Якія існуюць формы і мэтады работы па збору мэтавых укладаў?

Асноўнай формай работы па мабілізацыі сродкаў унутры калгасу—зьяўляецца масавая растлумачальная работа сярод калгасьнікаў і калгасьніц. Толькі шляхам правядзеньня шырокай масавай работы, сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкага буксіру—праводзіць збор мэтавых укладаў.

Катэгарычна забараняецца ўжываць мэтады адміністраваньня, прымусу ў гэтай рабоце.

### Як практычна пачаць работу па збору ўкладаў?

Работа гэтая пачынаецца з таго, што праўленьне калгасу, на падставе вытворчага пляну, прыступаючы, напрыклад, да будаўніцтва скотнага двара, складае каштарыс гэтай пабудовы. Па гэтаму каштарысу патрабуецца, напрыклад, сродкаў 10.000 руб, Дзяржбанкам адпушчана 4.000 руб. на гэтую па трэбу і 3.000 руб. ёсьць з агульных сродкаў калгасу. Такім чынам на пабудову скотнага двара не хапае 3.000 рублёў.

У такім выпадку, пры абгаварэньні на агульным сходзе вытворчага каштарыса, праўленьне калгасу павінна асобна заастрыць увагу калгасьнікаў па недахопу сродкаў на пабудову скотнага двара. Такім чынам, пры абгаварэньні вытворчага каштарысу, праўленьне мабілізоўвае калгасьнікаў на тое, каб адшукаць дадатковыя сродкі шляхам пазыкі ў саміх калгасьнікаў у форме мэтавых укладаў.

Калі гэтае пытаньне будзе прынята агульным сходам калгасьнікаў, калгасны актыў арганізуе збор мэтавых укладаў, прытрымліваючыся прынцыпу дабраахвотнасьці.

**С—ка.**

---

*) Артыкул напісаны на аснове растлумачэньня Калгасцэнтру СССР аб мэтавых укладах.

# КАЛГАСЫ І САЎГАСЫ,
## ужывайце для жывёлы тарфяны подсьціл

Побач з кармленьнем жывёлы па нормах, выкарыстаньнем племянных вытворнікаў, — у справе правільнага разьвіцьця жывёлагадоўлі адыгрываюць вялікую ролю ўмовы жыцьця жывёлы, асабліва маладняка: цёплыя скотныя двары, іх асьвятленьне і ўтрыманьне ў чыстаце.

Утрыманьне жывёлы ў чыстаце дасягаецца своячасовай вывазкай гною і ўжываньнем дастатковай колькасьці подсьцілу.

Навукай даведзена, што калі подсьцілу не хапае, то з 100 коняй 20—25 маюць розныя хваробы капыт. Узімку, у час халадоў, тыя жывёлы, якія стаяць на мокрай зямлі бяз подсьцілу, дрэнна адкармліваюцца, худзеюць, часта прастуджваюцца і хварэюць, а маладняк дрэнна расьце і часам нават зусім гіне.

Акрамя таго, што недахоп подсьцілу шкодзіць здароўю жывёлін, ён памяншае колькасьць гною ў гаспадарцы. Калі гною ў гаспадарцы недастаткова, падаюць ураджаі палёў і лугоў. Калі мала корму і стада будзе менш, значыць — менш будзе і гною.

Для павышэньня ўраджайнасьці палёў і лугоў неабходна, побач з добрай апрацоўкай зямлі і ўжываньнем сартовага насеньня, таксама ўнясеньне дастатковай колькасьці гною.

Гною ў нас хапае, і мы можам угноіць прыкладна адну трэцяю ці палову пахатнай зямлі. Інакш кажучы, трэба ўносіць гною ў два-тры разы больш, чым цяпер. Гэтага лёгка дасягнуць, калі ўжываць для жывёлы тарфяны подсьціл.

### Якая карысьць ад тарфянага подсьцілу

1. Тарфяны подсьціл мяккі, чысты і цёплы, асабліва ўзімку, ён лепшы і таньнейшы за салому.

2. Ён затрымлівае ў сабе вадкасьці больш чым салома Адзін **кг** тарфянага подсьцілу паглынае 12—15 **кг** вады, а адзін **кг** саломы—толькі 3—4 **кг**.

3. Тарфяны подсьціл добра ўтрымлівае ў сабе шкодныя для жывёлы, але карысныя для гною газы: аміяк, і вуглекіслату, якую выдыхаюць жывёлы. Пры тарфяным падсьціле паветра ў хляве заўсёды чыстае, жывёлы не хварэюць запаленьнем вачэй і не наглядаецца запаленьняў носа і горла, як гэта бывае пры саламяным подсьціле.

4. Гной, атрыманы пры тарфяным подсьціле, лепшы чым пры саламяным, угнаяльнае дзеяньне яго вышэй. Ураджаі пры ўгнаеньні тарфяным гноем, вышэй, чымся пры звычайным саламяным гнаі.

5. У час пажару тарфяны подсьціл загараецца ня так лёгка, і не гарыць полымем, як саламяны подсьціл, а толькі тлее, значыць ён менш небясьпечны.

### Як здабываць тарфяны подсьціл

Здабываць і пераапрацоўваць тарфяны подсьціл вельмі проста. Мохавае балота (у крайнім выпадку і лугавое) спачатку асушаецца няглыбокімі канавамі. Потым зразаюць купіны, карчуюць і выраўніваюць паверхню балота.

Далей верхні мохавы пласт (ці дзёран на лугавым балоце) разьбіваюць граблямі, а яшчэ лепш разьдзіраюць жалезнымі баронамі, калі атрыманы тарфяны подсьціл дастаткова падсохне, яго зграбаюць у кучы і ўвозяць з балота пад паветку ці хлеў. Адсюль яго біяруць для выкарыстаньня ў выглядзе подсьцілкі.

Можна рабіць і так, з верхняга мохавага пласта вырэзваюць пліткі (цэглы) таўшчынёй у 10—12 **см**, шырынёй у 15 **см** і даўжынёй у 35—40 **см**. Пліткі сохнуць тут-жа на балоце. Калі яны падсохнуць, іх увозяць з балота пад паветку ці ў хлеў.

Высушаныя пліткі ці подсьціл неабходна абавязкова складваць пад паветку, інакш яны могуць замокнуць ад дажджа і тады робяцца няпрыгоднымі для ўжываньня жывёлам.

Рэзаць пліткі можна ўвесну, улетку і ўвосень. Узімку, на марозе, пліткі прамярзаюць, робяцца пульхнымі і лягчэй разьмяльчаюцца.

Перад выкарыстаньнем тарфяных плітках іх разьбіваюць матыгамі ці дробяць машынамі, падобнымі на малацілку.

Многія калгасы і саўгасы разьмешчаны недалёка паліўных торфараспрацовак. На торфараспрацоўках ачос—верхні падсьцілачны слой—перашкаджае здабычы торфу на паліва і зусім не выкарыстоўваецца, а скідваецца ў кар'ер. Па сутнасьці-ж ачос уяўляе добры торфа-мохавы подсьціл.

Калгасам і саўгасам неабходна ў гэтых выпадках заключаць дагавары з торфараспрацоўкамі, па якіх яны зьбіралі і вывозілі-б ачос у бл жэйшыя гаспадаркі. Гэтыя гаспадаркі, у сваю чаргу, маглі-б узяць на сябе пастаўку для торфараспрацовак прадуктаў харчаваньня.

Вельмі пажадана дабівацца шэфства торфараспрацовак над асобнымі калгасамі і саўгасамі з вылучэньнем на першы плян пытаньня снабжэньня падшэфных калгасаў і саўгасаў тарфяным подсьцілам.

Тарфяны подсьціл вельмі прыгодны для выкарыстаньня ў адхожых месцах — ён у іх зьнішчае дрэнны пах і ператварае зьмесіва іх у вельмі каштоўнае ўгнаеньне, асабліва для гародаў, у так ваны торфекальны тук.

### Як ужываць тарфяны подсьціл

Тарфяны подсьціл насыпаецца пад ногі жывёлам слоем у 12—15 **см**.

Саламяны подсьціл неабходна штодня прыбіраць, тарфяны-ж подсьціл убіраецца толькі тады, калі ён намокне ад мачы жывёл і моцна перамяшаецца з гноем. Таму пры тарфяным подсьціле штодня прыбіраць гной і намокшы подсьціл, замяняючы яго сьвежым, сухім, непатрэбна.

Ужываюць тарфяны подсьціл па наступных прыблізных нормах у суткі (пад каня—3—5 **кг**, пад карову — 3—5 **кг**, пад сьвіньню — 1—1,5 **кг**, пад авечку—0,5—1 **кг**).

Саўгасы і калгасы, памятайце, што ўжываньне тарфянага подсьцілу ў хлявох — самы хуткі, самы верны і самы просты спосаб падняць ураджайнасьць нашых палёў.

**Ч. С.**

# НЯ ТОЛЬКІ САБРАЦЬ, АЛЕ І ЗАХАВАЦЬ УРАДЖАЙ БУЛЬБЫ

Перад саўгасамі і калгасамі стаіць баявая задача, ня толькі дабіцца высокіх ураджаяў бульбы, сваячасовай прыборкі, але і правільна арганізаваць захаваньне.

Дакладнага ўліку, які процант трацiцца бульбы пры захаваньні няма. Па сцьверджаньнях вучоных сельская гаспадарка Савецкага саюзу, дзякуючы таму, што дробная аднаасобная сялянская і нават кулацкая гаспадарка ня ўмела і не магла добра захаваць сабраны ўраджай бульбы, мела вялік'я страты, якія дасягнулі ў паасобныя гады да 30 проц. і больш ад сабранага ўраджаю бульбы. Пры звычайных умовах хаваньня бульбы страты складаюць ад 12,5 да 20 проц. ад першапачатковай вагі. Калі добра арганізаваць захаваньне бульбы, дык страты могуць зьнізіцца да 8 проц. і меней.

Якія страты нясе сельская гаспадарка БССР ад ня зусім добрага захаваньня бульбы?

Надзвычайна вялікія. Так, з валавога збору ўраджаю 1931 году страчана больш 200.000 **т** бульбы, з валавога збору ўраджаю 1932 г. можа быць страчана больш 240.000 **т.** Ад нерацыянальнага спосабу захаваньня бульбы страты ў некалькі разоў перавышаюць патрэбы на сыравіну сьпіртусовай і крухмальнай прамысловасьці.

Бязумоўна ні дзяржава, ні саўгасьнікі, ні калгасьнікі, ні аднаасобнікі ня могуць мірыцца з такімі вялізарнымі стратамі бульбы. Яны павінны весьці самую рашучую барацьбу за кожны кілёграм бульбы.

Найбольшы эфэкт атрымаецца, калі саўгасьнікі, калгасьнікі, аднаасобнікі добра агледзяць бульбу, якая падлягае захаваньню ў ямах, капцох, складах і г. д.

Бульба, якая вызначана для захаваньня павінна быць аднагатунковай, сьпелаю, здароваю, без мэханічных пашкоджаньняў і незасьмечанай.

Гатункаў бульбы вельмі шмат (больш 2 тыс.). З іх адны больш, а другія менш устойлівы пры захаваньні. Напрыклад, раньнія гатункі трэба захоўваць паасобна ад зімніх.

Сьпеласьць бульбы таксама мае вялікае значэньне пры захаваньні, а таму пры выбарцы і сартаваньні нясьпелыя (дробныя) бульбіны трэба адабраць, бо яны здольны хутка загніваць і заражаць бульбу.

Нішто так ня страшна пры захаваньні бульбы, як бульбяныя хваробы. Часта, дзякуючы ім гіне ўся бульба. Каб уніхнуць страт ад хвароб і шкоднікаў, неабходна ўважліва перабіраць бульбу ня толькі ў часе копкі, але і перад захаваньнем. Бульбіны з мэханічнымі пашкоджаньнямі зьяўляюцца аднэй з прычын загніваньня бульбы, а таму пры пераборцы ўсе пашкоджаныя бульбіны трэба адабраць.

Перад захаваньнем бульбу трэба ачысьціць ад засьмечанасьці зямлёю і саломаю, у праціўным выпадку яна будзе меней устойліва пры захаваньні.

Прад'яўляючы такія суровыя запатрабаваньні да бульбы, неабходна прад'явіць самыя жорсткія патрабаваньні і да бульбааховаў.

У барацьбе са стратамі бульбы пры захаваньні нашы саўгасьнікі, калгасьнікі павінны прыняць самы актыўны ўдзел. Выдзеленыя спэцыяльныя брыгады па захаваньні бульбы, узброіўшыся тэхнічнымі ведамі, ужываючы сацыялістычныя мэтады працы—ударніцтва і сацспаборніцтва змогуць мабілізаваць энтузіязм працоўных мас на вынаходніцтва ў справе найбольш рацыянальнага масавага спосабу захаваньня бульбы і на выкананьне лёзунгаў партыі—барацьба са стратамі.

Захаваная ад страт бульба павялічыць нашы харчовыя і кармовыя рэсурсы, а таксама сыравінную базу бульбаапрацоўчай прамысловасьці.

**Я. М. Ярмашэвіч.**



Маладняк калгасу імя 13 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі Талачынскага раёну.

# Супроць апартуністычнай блытаніны ў пытаньнях спэцыялізацыі сацыялістычнага земляробства

(Аб кнігах Навукова-дасьледчага калгаснага інстытуту „Производственные типы МТС во второй пятилетке под общей редакцией Я. П. Никулихина и Я. Ф. Бумберга, вып. I., стар. 294, ц. 2 р. 50 к., тыр. 12.000, вып. II, стар. 175, ц. 1 р. 20 к., тыр. 12.000).

На аснове дасягненьняў першай пяцігодкі ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскагаспадарчай вытворчасьці і падвядзеньня пад яе высока-тэхнічнай базы на другое пяцігодзьдзе мы маем магчымасьць плянаваць разгортваньне сельскагаспадарчай вытворчасьці ў канкрэтных буйных сацыялістычнага тыпу прадпрыемствах. Дасягненьні сацыялістычнай прамысловасьці ў справе спэцыялізацыі прадпрыемстваў, тыпізацыі вытворчых працэсаў і г. д. павінны знайсьці цяпер больш шырокае ўжываньне і ў нашым буйным сацыялістычным земляробстве (зразумела, з улікам сацыяльных, эканамічных і тэхнічных асаблівасьцяй сельскагаспадарчай вытворчасьці). Бяспрэчнай заслугай калгаснага інстытуту зьяўляецца тое, што ён першым пачаў вывучэньне і дасьледваньне ўсіх гэтых пытаньняў.

Калектыў навуковых работнікаў інстытуту заняўся ня толькі пытаньнямі плянаваньня сельскай гаспадаркі ў цэлым, але і плянаваньнем канкрэтных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў—машынатрактарных станцый пэўнага вытворчага тыпу. Каштоўна і тое, што праблема разьвіцьця МТС у другой пяцігодцы прапрацоўвалася на прыкладзе і вопыце існуючых машына-трактарных станцый. Да прапрацоўкі праектыровак інстытуту былі прыцягнуты работнікі МТС і калгасьнікі. Усё гэта надае рабоце Калгаснага інстытуту вялікі інтарэс. Аўтары сабралі і распрацавалі каштоўны і разнастайны фактычны матар'ял, паднялі шмат актуальных пытаньняў сельскагаспадарчага плянаваньня. Рэцэнзуемая кніга магла-б зьявіцца сур'ёзным укладам у распрацоўку другой сельскагаспадарчай пяцігодкі, калі-б у данай рабоце аўтары правільна адбілі ўсе ўстаноўкі партыі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Нажаль, дапушчаныя імі грубейшыя палітычныя і мэтадалёгічныя памылкі робяць іх работу моцнай у яе аснове і ў большай меры абясцэньваюць усю прароблену работу.

Пачаць з пытаньня—аб характары і аб'ёме спэцыялізацыі сельгаспрадпрыемстваў. Аўтары стаяць у гэтым пытаньні на памылковай пазыцыі вузкай спэцыялізацыі МТС і абслугоўваемых імі калгасаў, спэцыялізацыі ва што-б гэта ні стала. Гэта прыводзіць аўтараў зачастую да праектыровак, супярэчачым агульным народна-гаспадарчым інтарэсам.

Напрыклад, у разьдзеле аб тыпе ільняна-малочнай МТС, распрацаваным на канкрэтным прыкладзе МТС Ліхаслаўскага раёну, Маскоўскай вобласьці, выстаўляюцца такія палажэньні:

„Мы праэктуем высока спэцыялізаваны тып малочна-ільнянай машына-трактарнай станцыі. Удзельная вага асноўнай культуры — ільну — рэзка павышаецца намі за кошт зернавых. Зараз, у 1931 годзе ўдзельная вага зернавых складае 53,9 проц., у 1937 г. яна падае на 8 проц. Прычым асабліва моцна падае ўдзельная вага харчовай культуры—жыта. Абедзьве зернавыя культуры жыта, авёс скарачаюць свае пасеўныя плошчы, авёс—4500 да 3800 **га**, што кампэнсуецца ростам ураджайнасьці ў паўтара разы (22,8 замест 16,9 **ц**) плошча пад жыта скарачаецца з 4000 да 1200 **га**, прычым, ня гледзячы на рост ураджайнасьці, скарачаецца на 50 проц. і валавы збор — з 48 тыс. да 24 тыс. цэнтнераў" (вып. 1, стар. 37).

Пры гэтым ня прыводзіцца ніводнага довада аб неабходнасьці такога скарачэньня вытворчасьці зернавых культур у ільняна-малочных МТС.

Невядома, ці не хапае зямлі для гэтых культур пры адпаведным разгортваньні ільнаводзтва, ці нехапае сродкаў вытворчасьці, ці рабочай сілы. Ці можа быць нарэшце інтарэсы агратэхнікі патрабуюць, каб зернавыя культуры не разьвіваліся адначасова з ільном? Чаму неабходна скарачаць вытворчасьць зернавых і асабліва жыта ў ільнаводчых раёнах?

Возьмем нават, што аўтары правільна выходзяць з таго, што

„...Колькасьць насельніцтва скароціцца ўдвое і цяперашнія нормы спажываньня жыта бязумоўна зьнізяцца. Насельніцтва будзе больш спажываць пшанічны хлеб, малочныя прадукты, гародніну і садавіну, так што захаваньне старых норм спажываньня жыта... ніякага дэфіцыту не стварае" (вып. 1, стар. 37).

Ці азначае гэта, што неабходна скарачаць вытворчасьць зернавой прадукцыі? Калі-б да канца другой пяцігодкі насельніцтва ў ільнаводчых раёнах і скарацілася ўдвое, дык гэта не азначае, што яно наогул у якой-небудзь ступені скароціцца ў СССР, наадварот, насельніцтва будзе ўсё ўзрастаць. Ці будзе ў другім пяцігодзьдзі ўсё ўзрастаючае насельніцтва Саюзу ССР задавальняецца хлебам вытворчасьці адных толькі зернавых раёнаў? Досыць толькі зьвярнуцца да праэктуемага балянсу вытворчасьці і спажываньня зернавых культур рознымі раёнамі нашага Саюзу, каб пераканацца ў абсурднасьці такой пастаноўкі пытаньня.

Аўтары пры праэктаваньні асобных МТС упускаюць з поля зроку народна-гаспадарчыя задачы, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай у цэлым. У прыватнасьці перад сельскай гаспадаркай так званай „спажываючай" паласы СССР неабходна паставіць як адну з важнейшых задач далейшае павялічэньне вытворчасьці зернавой прадукцыі, у першую чаргу за кошт павышэньня ўраджайнасьці зернавых культур.

Аналёгічныя праэктыроўкі тлумачацца поўным неразуменьнем дагэтуль некаторымі работнікамі сельскай гаспадаркі значэньня зернавых культур для народнай гаспадаркі СССР.

Аўтары рэцэнзуемай кнігі не хаваюць, што яны лічаць магчымым шляхам скарачэньня вытворчасьці зернавых культур у ільнаводчых раёнах дасягнуць высокай спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі. Але чаму патрэбна іменна такая спэцыялізацыя і якія вынікаюць з яе вывады для народнае гаспадаркі, аўтары адказу не даюць.

У другім месцы і па другому поваду сустракаем у іх такое палажэньне: „Вузкая спэцыялізацыя дае найвышэйшую вытворчасьць працы, найменшую сабекаштоўнасьць прадукцыі" (вып. I, стар. 136).

Адкуль гэта вынікае, дзе, калі і кім даведзена? Ніводнага разьліку, ніводнага факту для абгрунтаваньня свайго сьцьвярджэньня аўтары ня прыводзяць. Пры гэтым аўтары ня прыводзяць дастаткова рэзкага і правільнага размежаваньня паміж

спэцыялізацыяй ва ўмовах сацыялістычнай і капіталістычнай гаспадаркі.

> „... Спэцыялізацыя МТС ідзе,—пішуць яны,—ня толькі па лініі павышэньня вядучай культуры, а таксама поўнага выгнаньня вялізарнай колькасьці культур з палёў МТС, якія зьяўляюцца спадчынай унівэрсальнай аднаасобнай сялянскай гаспадаркі *). Табліца паказвае наяўнасьць на сёньня ў некаторых МТС да 20 культур. Гэта бязумоўна вядзе да вялізарных страт у гаспадарцы з пункту погляду яго рацыянальнай арганізацыі. Да канца пяцігодкі на зернавой МТС скарачэньне культур адбываецца ў 4 разы. Самае большае ў мэханізаванай гаспадарцы застаецца 7 культур“ (вып. 1, стар. 20—21).

Ітак, адна толькі наяўнасьць у межах раёну МТС значнай колькасьці культур, па думцы аўтараў, цягне за сабою вялізарныя страты. І, наадварот, раз колькасьць культур скарачаецца, то як вынік гэтага скарачэньня дасягаюцца найвышэйшая вытворчасьць працы, найменшая сабекаштоўнасьць прадукцыі і г. д. Аўтары зусім не задумваюцца над такім пытаньнем, што, калі ва ўмовах прыватнай індывідуальнай вытворчасьці адбываецца выгнаньне культур, устанаўляецца вузкая спэцыялізацыя цэлага раёну на якой-небудзь аднай культуры (а такую спэцыялізацыю капіталізм праводзіць, напрыклад, у ПАЗШ), то гэтым самым яшчэ не дасягаюцца найвышэйшая вытворчасьць працы і найменшая сабекаштоўнасьць прадукцыі, як сьведчыць аб гэтым сапраўднасьць (гл. артыкул М. Кубаніна „специализация овощных районов САСШ“ у часопісі „На аграрном фронте“ № 8—9 за 1931 г.).

Пытаньне аб ступені спэцыялізацыі таго, ці іншага тыпу прадпрыемства можа быць вырашана толькі на аснове ўсебаковага аналізу сацыяльна-эканамічных і тэхнічных умоў вытворчасьці. Пры гэтым неабходна адзначыць поўную няпрыемлемасьць для нас мэханічнага, некрытычнага перанясеньня ў нашы ўмовы „дасягненьняў“ буржуазнай тэорыі і практыкі.

Буржуазныя тэарэтыкі, бясьсільныя даць аналіз фактараў спэцыялізацыі асобных раёнаў па кожнай асобнай культуры, наіўна мяркуюць ці сьвядома ілжыва ўяўляюць, што капіталізм кіруецца прынцыпамі рацыянальнасьці, вытворчасьці працы і г. д., а не пагоняй за прыбыткам, хоць-бы з яўнымі стратамі для ўраджайнасьці, вытворчасьці працы і г. д. (вынікі чаго цалкам кладуцца на плечы працоўных фэрмераў).

Буржуазныя тэарэтыкі затушоўваюць анархію капіталістычнага спосабу вытворчасьці, рэзкае хістаньне сельскагаспадарчых цэн, няўстойлівасьць і эксплётацыю дробнага фэрмэра і селяніна, што робіць прынцыпова немагчымым ажыцьцяўленьне рацыянальнай спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, прыводзіць да драпежніцкай эксплёатацыі зямлі і г. д.

Нажаль, работнікі Калгаснага інстытуту ў сказаньні пытаньняў спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі не прадстаўляюць выключэньня. У сельскагаспадарчай літаратуры досыць распаўсюджанай зьяўляецца думка, што калі капіталізм, ня гледзячы на значныя перашкоды спэцыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці (прыватная ўласнасьць на зямлю, раздробленасьць вытворчасьці, тэхнічная адсталасьць у параўнаньні з прамысловасьцю і г. д.), усё-ж на асобных вучастках дасягнуў спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, то сацыялістычнаму земляробству нічога больш не патрабуецца, як толькі, па меры адхіленьня вышэйпамянёных перашкод, пераймаць гэтую форму капіталістычнай спэцыялізацыі і распаўсюджваць яе на ўсю сельскагаспадарчую вытворчасьць у цэлым.

Так, напрыклад, Ф. А. Харобрых на той падставе, што „ў капіталістычных краінах, у прыватнасьці ў Амэрыцы, фэрмер выпрабляе для сябе ня толькі тое, што выпрабляе для другіх, усе другія сельскагаспадарчыя прадукты ім купляюцца“ лічыць, што такое становішча абавязкова і для нас:

> „...Сельскагаспадарчае насельніцтва снабжаецца нараўне з гарадзкім насельніцтвам, г. зн. выпрабляе для сябе—толькі тое, што выпрабляе для другіх раёнаў. Так у сьвінагадоўчых раёнах з свайго раёну насельніцтва атрымлівае толькі прадукты сьвінагадоўлі, а другія прадукты атрымлівае з другіх раёнаў **).

Калі прыняць пад увагу, што, па думцы таго-ж аўтара, уся сельская гаспадарка СССР павінна быць падзелена „на 15 галоўнейшых, рэзка адрозьніваючыхся друг ад друга спэцыялізаваных тыпаў“ і што „кожны з іх разьмяшчаецца ў адпаведных спэцыялізаваных раёнах“ (там-жа, стар. 104), то стане зусім відавочнай абсурднасьць такой формы спэцыялізацыі для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Тым ня менш гэта не перашкаджае Ф. А. Харобрых сьцьвярджаць:

> „Такава агульная характарыстыка той новай карты сельскай гаспадаркі нашай краіны, якая на аснове генэральнай лініі партыіі павінна быць ператворана ў сапраўднасьць ва што-б гэта ні стала ў найкарацейшы тэрмін“ (там-жа, стар. 101).

Праўда, работнікі Калгаснага інстытуту не выказваюцца за перанясеньне капіталістычнай практыкі спэцыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці ў нашы ўмовы. Яны нават па свойму вядуць барацьбу з буржуазнымі тэарэтыкамі па гэтым пытаньні, так, напрыклад, у сваёй рабоце яны заяўляюць:

> „Асноўным прынцыпам вызначэньня вытворчай спэцыялізацыі як цэлых раёнаў, так і асобных саўгасаў і калгасаў зьяўляецца прынцып плянавага кіраўніцтва ў адрозьненьне ад контррэвалюцыйнага „мэтаду варыянтных схэм“ кандрацьеўска-чаянаўскай школы, прапагандаваўшай у якасьці „рэгулятара“ народнай гаспадаркі рынак і цэны, вызначаючыя напрамак гаспадаркі“ (вып. 1, стар. 265).

Але, нажаль, крытыка шкоднікаў абмяжоўваецца толькі гэтым супроцьстаўленьнем. Зусім відавочна, што недастаткова вылаяцца па адрасу контррэва-



Аршанскі элеватар (БССР).

*) Тут аўтарамі зборніка прыводзіцца адпаведная табліца Я. М.

**) „Специализация сельского хозяйства и сельскохозяйственное районирование“, Планхозгиз М. 1930 г., стар. 109.

люцыйнага „мэтаду варыянтных схэм“ кандрацьеўска-чаянаўскай школы і паклясьціся плянавым заданьнем. Усё гэта разам узятае ні ў якой ступені не вызваляе аўтараў ад абавязку адказаць на пытаньні:

Па-першае, з чаго выходзіць гэтае самае „плянавае заданьне“, калі даецца ўстаноўка скарачаць вытворчасьць зернавых і асабліва жыта ў так званай „спажываючай“ паласе?

Па-другое, дзеля чаго на аснове „плянавага заданьня“ прапануецца выганяць рад культур з сацыялістычных палёў, куды іх неабходна выганяць: ці зусім выкараняць ці ствараць спэцыяльныя раёны, напрыклад, прасяныя, грэчкавыя і г. д. і г. д.?

Па-трэцяе, чаму ў пэрыяд вайстрэйшай напружанай барацьбы за павялічэньне мясных рэсурсаў краіны, за пашырэньне сыравіннай базы прамысловасьці шырспажыву „плянавае заданьне“, лічыць немэтазгодным і праэктаваць разьвіцьцё ў калгасах Ліхаслаўскай МТС ні сьвінагадоўлі ні аўцаводзтва? (вып. 1, стар. 137).

Па-чацьвертае, у чым сэнс такога „плянавага заданьня“, якое мяркуе скарачаць на 38 проц. пагалоўе малочнага стада ў прыгараднай зоне (Кунцаўская МТС), з адначасовым вывазам грубых і сакавітых кармоў адсюль у дальнія раёны (11—20 **км**) для скармліваньня там жывёле і зваротнай транспартыроўкі цэльнага малака ў Маскву (вып. 1, стар. 272). З якіх гэта часоў грубыя, сакавітыя кармы і цэльнае малако сталі больш транспартабельнымі прадуктамі, чымся савойская капуста, гуркі і нават таматы ў перапрацаваным выглядзе, з дапамогаю якіх аўтары выцясьняюць вытворчасьць малака з раёнаў, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасьці да буйных цэнтраў спажываньня?

Ня выказваючыся прама за монокультурнасьць сельскагаспадарчай вытворчасьці „на даным этапе, калі „монокультурнасьць“ пшаніцы не падмацавана таксама і высокай ураджайнасьцю“ (вып. II, стар. 94), аўтары па сутнасьці ва ўсіх сваіх праэктоўках выходзяць з нічым недаказанай прадпасылкі, што чым больш гаспадарка набліжаецца да монокультурнай і моногалінная, тым больш яна вытворчая з народнагаспадарчага пункту погляду. Тым самым даецца аднабаковая і таму яўна няправільная ўстаноўка аб спэцыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці ў саўгасах, МТС і калгасах.

Правядзеньне спэцыялізацыі вытворчасьці ў плянавым парадку павінна асноўвацца на вучоце і вывучэньні ўсіх умоў і магчымасьцяй яе ажыцьцяўленьня на кожным асобным этапе сацыялістычнага будаўніцтва.

**Я. Мікалаенка.**

(*Працяг будзе*).

---

## Сьпяшэце падпісацца на 1933 год на часопіс

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

---

**Адказны рэдактар С. МІЦЬКОЎ.**



Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2620. 2.350 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.



Частка плаціны Днепрабуду з правага берагу Дняпра і дэталь будынку ГЭС